Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 2 (4853) 15 студзеня 2016 г.



***Сярод лаўрэатаў прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» 2015 года — аўтарскі калектыў у складзе пазаштатнага супрацоўніка галоўнай дырэкцыі міжнароднага вяшчання Беларускага радыё Алены Харашэвіч і прафесара кафедры крымінальна-выканаўчага права Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Анатоля Шаркова. Іх намаганнямі створана кніга-рэквіем «Жыць і помніць», якая абагульняе вынікі работы па вызначэнні і вывучэнні месцаў пахавання беларусаў — абаронцаў Айчыны ў розных кутках Еўропы. Кніга пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».***


*Фота БелТА.*

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручае ўзнагароду Анатолю Шаркову.*

# Навагодні праменад грацыёзных па

**Кацільён, мазурка, контрданс, па-дэ-катр, алеманда, міньён, шакон, полька… У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі традыцыйна на стары новы год дамы і кавалеры дэманструюць веданне бальных танцаў мінулага, прамудрасці свецкіх паводзін, велічныя манеры, пачуццёвасць, высокі мастацкі густ, безліч вытанчанай прыгажосці і зграбнасці.**

Калісьці для адукаванага двараніна той пары валоданне мастацкімі навыкамі, асновамі мастацтваў было такой жа неад'емнай часткай выхавання, як уменне фехтаваць, веданне французскай мовы, верхавой язды. Належаць да найвышэйшых колаў і пры гэтым дрэнна танчыць — недаравальна. Таму баль — з'ява элітарная. Міхаіл Іванавіч


*Фота Сяргея Ніканові ча.*

Глінка (ураджэнец Смаленшчыны) пасля заканчэння Шляхетнага пансіёна лічыў сваю танцавальную падрыхтоўку недастатковай: «Хутка я пераканаўся ў неабходнасці ўмець танчыць, пачаў вучыцца ў Гольца, займаўся з ім каля двух гадоў і дайшоў да *entrechats, doubles, ailes de pigeons* і да іншых па, якімі ў той час францілі спрытныя танцоры». Адным з грунтоўных дапаможнікаў па бальных танцах таго часу была праца 1588 г. «Архесаграфія» Жана Табуро (псеўданім — Туана Арбо), дзе адлюстравана гісторыя французскага салоннага танца. Кніга заклала падмурак той французскай школы танца, якая праз стагоддзе прыводзіць да стварэння парыжскай Акадэміі танца, што стала заканадаўцай моды на сто з лішкам гадоў у Еўропе.

На беларускіх землях фарміраванне бальных традыцый было непасрэдна звязана з культурнымі рэаліямі ВКЛ, Рэчы Паспалітай, а пасля і Расійскай імперыі з-за знаходжання ў агульнай культурнай прасторы.

Чытайце на стар. 3

## Пункцірам

✔ Уручэнне прэміі Прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне», спецыяльных прэмій Прэзідэнта дзеячам культуры і мастацтва, а таксама спецыяльнай прэміі Прэзідэнта «Беларускі спартыўны Алімп» адкрывае Год культуры, адзначыў Аляксандр Лукашэнка падчас цырымоніі ўручэння прэмій: «Гэта сведчыць пра тое, што дзяржава надае вялікае значэнне развіццю такой важнай сферы, як культура». Галоўная задача — актывізаваць інтэлектуальныя і духоўныя сілы нашага народа, падтрымаць ініцыятыву ў мэтах захавання гістарычнай спадчыны, уздыму на новы ўзровень сучаснага мастацтва і выхавання ў грамадзян любові да сваёй Радзімы. «Сучасныя рэаліі такія, што менавіта згуртаванасць нацыі вакол праўдзівых, стваральных каштоўнасцей з'яўляецца гарантыяй яе захавання і прагрэсу, духоўнага здароўя і дабрабыту», — падкрэсліў Прэзідэнт.

✔ Прэзідэнт Беларусі накіраваў прывітанне ўдзельнікам урачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 75-годдзю з дня нараджэння народнага артыста СССР і Беларусі Уладзіміра Мулявіна, і павіншаваў з гэтай знамянальнай датай. «Нарадзіўся Уладзімір Мулявін у Расіі, але душой і сэрцам стаў сынам беларускай зямлі. Заснаваны ім легендарны ансамбль «Песняры» зрабіў наша музычнае мастацтва вядомым і паважаным у свеце і сёння па праве з'яўляецца адным з культурных сімвалаў Беларусі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 80-годдзем народнага артыста СССР Раймонда Паўлса. «Вашы песні блізкія і зразумелыя слухачам розных пакаленняў. Яны карыстаюцца заслужанай папулярнасцю ў Беларусі, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. — Створаныя Вамі творы, поўныя глыбокіх пачуццяў і лірызму, на працягу многіх гадоў пакараюць беларускую публіку, для якой кожная сустрэча з Вашай творчасцю становіцца сапраўдным святам душы».

✔ У найбліжэйшы час будзе зацверджаны План мерапрыемстваў па правядзенні ў Беларусі Года культуры, паведаміў падчас прэс-канферэнцыі для журналістаў намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік. «Культура аб'ядноўвае ў сваім паняцці ўсё, што ствараецца рукамі чалавека, без чаго не можа развівацца грамадства. Ва ўсіх сферах грамадскага жыцця культура выходзіць на першыя пазіцыі», — падкрэсліў ён.

✔ Першыя білеты на канцэрты XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску-2016» паступяць у продаж ужо ў лютым. Паводле дырэктара форуму Аляксандра Сідарэнкі, падрыхтоўка да правядзення юбілейнага, 25-га, «Славянскага базару» вядзецца даўно. Юбілей будзе адзначаны шэрагам новых праектаў, у асноўным маладзёжных, і падзеямі, якія палюбіліся публіцы. На форум мастацтваў прыедуць і новыя зоркі сусветнай велічыні, і даўнія сябры, у ліку якіх лаўрэаты спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення».

✔ XVI свята музыкі «Заслаўе-2016» пройдзе 22 студзеня. Мерапрыемства традыцыйна адкрыецца абласным конкурсам юных выканаўцаў ДШМ Мінскай вобласці «Заслаўскі сшытак» на лепшае выкананне твораў беларускіх кампазітараў. Адбудзецца канцэрт, падрыхтаваны для малодшых калег творчым калектывам Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга, і шмат іншых цікавых мерапрыемстваў.

# Што мы чакаем ад Года культуры?



**Аляксандр Сягоднік, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і навуцы:**

— Паняцце «культура» трэба разумець у шырокім сэнсе: гэта не толькі мастацтва, творчасць, але і адносіны між людзьмі. Культура ў нашым жыцці — гэта пласт чалавечнасці, таму спадзяюся, што ў 2016 годзе мы будзем больш клапатлівымі, больш уважлівымі адзін да аднаго. Далучэнне да культурных здабыткаў магчымае для ўсіх жыхароў нашай краіны — праз кнігі, тэатр, музыку, кіно...

На пачатку года карысна падвесці вынікі зробленага: у Беларусі адрэстаўравана шмат помнікаў архітэктуры, ці не ў кожным раёне ідзе аднаўленне культурных аб'ектаў, між якімі — Нацыянальны мастацкі музей, Гродзенскі абласны тэатр лялек, Слонімскі драматычны тэатр. Добрай традыцыяй стала правядзенне музычных і тэатральных фестываляў у розных гарадах краіны.

Хацелася б, каб сёлета больш уважлівымі да людзей былі органы мясцовай улады: заўважалі творчых асоб, праводзілі цікавыя мерапрыемствы (напрыклад, свята вёскі).

Зрэшты, каб весела і карысна правесці выхадны дзень, патрэбна ўсяго толькі сабрацца, сумовіцца і зладзіць свята талакой!



**Уладзімір Гілеп, старшыня Беларускага фонду культуры, старшыня Беларускага камітэта міжнароднай Рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС):**

— Днямі я сустракаўся з міністрам культуры Барысам Святловым, і ён усцешана казаў, што 2016 год — гэта наш год, год усіх работнікаў культуры Беларусі. Кожны мае на гэты год свае планы і спадзяванні. Так, сёлета мы адзначым 125-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча, таму ўзмацняюцца надзеі на выкананне апошняга запавету творцы — вярнуцца на беларускую зямлю і застацца тут назаўсёды. У Год культуры гэта магло б спраўдзіцца.

Да таго ж, сёлета мы павінны годна падрыхтавацца да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання — юбілейная дата прыпадае на 2017 год: спадзяюся, ён будзе абвешчаны Годам беларускай кнігі.

Што да Беларускага камітэта ІКАМОС і нашай грамадскай арганізацыі, то 2016 год будзе пачаткам рэстаўрацыі драўлянага алтара Будслаўскага Касцёла Узнясення Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гэты касцёл — адзіны нацыянальны санктуарый у Беларусі, і штогод 2 ліпеня тут ладзіцца Будслаўскі фэст, на які збіраецца збіраецца безліч паломнікаў з розных куткоў краіны.

Хочацца перадаць усім работнікам культуры і асабліва супрацоўнікам асветніцкіх устаноў (музеяў, клубаў, бібліятэк) пажаданні свята і дабра — у самым шырокім сэнсе слова. У мінулым годзе адбылося значнае скарачэнне колькасці бібліятэк, і варта думаць, што 2016-ы будзе годам узмацнення бібліятэчнай справы.



**Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва:**

— Спадзяюся, што Год культуры абвешчаны не для акцэнтавання ўвагі на разавых мерапрыемствах, а для звароту да праблем беларускай культуры. Бо выстаўкі, канферэнцыі, святочныя мерапрыемствы, на вялікі жаль, сёння цікавяць вельмі вузкія колы лю-дзей. Хацелася б, каб імёны прадстаўнікоў айчыннай культуры былі вядомыя ў грамадстве і выклікалі павагу, каб выстаўкі і юбілеі рабіліся значнымі падзеямі, каб пра культуру згадвалі не ў апошніх радках планавання бюджэту. Хацелася б, каб у Год культуры часцей давалі слова паэтам, пісьменнікам, архівістам, музейшчыкам, даследчыкам, а таксама культуролагам і сацыёлагам, якія маглі б выхоўваць у грамадзян краіны трапяткое стаўленне да беларускай культуры і яе мінулага. Праблемы ў гэтай сферы патрабуюць сур'ёзнага асэнсавання, і кожны, хто мае прафесійнае дачыненне да беларускай культуры, павінен задумацца над тым, як зрабіць яе духоўнай патрэбай для жыхароў нашай краіны і прывабнай для ўсяго свету.

**Наталля Барсукова, намеснік дырэктара па выставачнай дзейнасці Рэспубліканскай мастацкай галерэі:**

— Год культуры — вельмі добрая ініцыятыва, падтрыманая на дзяржаўным узроўні. Але трэба памятаць, што схема «як вы яхту назавеце, так яна і паплыве» тут не спрацуе. Так, у Год моладзі, на жаль, не ўсе мы сталі маладымі… Установамі культуры запланавана вялікая колькасць мерапрыемстваў, але важна праводзіць іх не дзеля «птушачкі», не дзеля справаздачы, а добра ўсведамляючы, для каго, навошта і чаму без гэтага нельга абысціся. Галоўнае — якасць. Фазіль Іскандэр казаў: «Культура — гэта не колькасць прачытаных кніг, а колькасць зразуметых».



Што датычыць Палаца мастацтваў, то 2016 год абяцае быць насычаным яркімі праектамі. Сёлета ў нас адбудзецца V Біенале жывапісу, графікі і скульптуры, ІІІ Трыенале сучаснага беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія выклікаюць вялікую цікавасць сярод шырокага кола наведвальнікаў, працягне работу арт-праект «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам», які стаў значнай падзеяй у культурным жыцці Мінска, біенальны праект «Пастулат», арганізаваны разам з Беларускім саюзам дызайнераў, за гады правя-дзення ўжо добра вядомы як на Беларусі так і за яе межамі, а таксама іншыя не менш цікавыя і значныя выстаўкі.



**Людміла Сінькова, крытык, літаратуразнаўца:**

— Спадзяюся на тое, што і я сама, і ўсё больш людзей нарэшце перастануць чакаць чагосьці ад некага іншага — больш разумнага, больш уплывовага ды больш упаўнаважанага. Спа-дзяюся, што мы ўсё хутчэй будзем рабіцца культурнымі самі па сабе і па сваёй волі — насуперак энтрапіі (млявасці ды абыякавасці да жыцця). Урэшце, кожны сам знаходзіць сваю бібліятэку, свой тэатр і музей.

Дай бог, каб шанцавала на людзей побач. Інфармацыйны вал сёння такі, што здольнай моладзі ўжо трэба пастарацца, каб быць зусім хамаватай ды цалкам, нават унутрана, пасіўнай. А пра культуру грамадства мяркуюць найперш па маладой эліце. Мне шанцуе на знаёмствы з маладымі ды таленавітымі — таму я спадзяюся!

**Юлія ШПАКОВА**

## У літаратурным асяродку

# З новым плёнам!

Нягледзячы на навагоднія турботы, канец мінулага года і пачатак новага выдаліся багатымі на падзеі для літаратурнай грамадскасці.

На будынку Асвейскай бібліятэкі з'явілася мемарыяльная дошка, якая ўвекавечвае прысвоенае кніжніцы імя айчыннага пісьменніка Васіля Рудога. З гэтай нагоды прайшла і вечарына памяці творцы — урАджэнца гарадскога пасёлка Асвея Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці, капітана першага рангу ў адстаўцы, адзначанага ордэнам Чырвонай Зоркі. Як распавяла старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ Тамара Краснова-Гусачэнка, у межах вечарыны быў прэзентаваны апошні зборнік адважнага марака і таленавітага літаратара — «Судьбы дорога», які ўбачыў свет дзякуючы Верхнядзвінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Вершы з нядаўна выдадзенай кнігі прагучалі ў выкананні вучняў Асвейскай сярэдняй школы.

У прыватным выдавецтве «Альтэрнатыва» пры канцы мінулага года выйшаў калектыўны зборнік прозы і паэзіі «ЛітАўра», паведаміў чытач «ЛіМа» Аляксандр Юдзіцкі. Гэта новы праект літаратурнага клуба «Літара» Брэсцкага гарадскога Дома культуры. У зборнік увашлі творы членаў клуба, а таксама вядомых аўтараў з Брэста, Лунінца, Пінска, Баранавіч ды іншых куткоў Брэстчыны. Укладальнік кнігі — Таццяна Дземідовіч.

Юбілей адзначыла паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна Галіноўская, якая ўсю сваю творчасць — сотні цудоўных вершаў — прысвяціла дзецям. Юбілейны вечар адбыўся ў клубе творчых жанчын «Спадарыня», створаным пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ, распавяла кіраўнік клуба, член СПБ Тамара Бунта. Пісаць Ніна Васільеўна пачала падчас вучобы ў Магілёўскім дашкольна-педагагічным вучылішчы. Сёння яна аўтар 18 кніг, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра і прэміі імя Васіля Віткі часопіса «Вясёлка». Напярэдадні юбілею Ніна Галіноўская атрымала Падзяку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Не менш цікавымі сталіся і творчыя сустрэчы ў межах Тыдня беларускай мовы і літаратуры на факультэце маркетынгу, менеджменту і прадпрымальніцтва Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта з паэтам, празаікам і парадыстам, аўтарам дзіцячых кніг Анатолем Зэкавым ды маладой паэтэсай, рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Маладосць» Ірынай Чарняўскай. Пра гэта рэдакцыя «ЛіМа» даведалася ад студэнтак факультэта Таццяны Жук і Анастасіі Конік.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**19 студзеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак работы а 15-й гадзіне.*

**20 студзеня** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Ганаровы госць — пісьменніца Алена Піменава. Пачатак у 14.30.*

**20 студзеня** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Маліначкія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**21 студзеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Нінай Галіноўскай, якая адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**21 студзеня** — *на літаратурна-музычнае свята, прысвечанае памяці рускага паэта Мікалая Рубцова, якое пройдзе ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 14-й адзіне.*

**22 студзеня** — *на літаратурна-музычны вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння рускага паэта Мікалая Рубцова. Імпрэза пройдзе ў Доме Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 15-й гадзіне.*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Навагодні праменад грацыёзных па

**Падчас балю называюць лепшых артыстаў Вялікага тэатра Беларусі. Па выніках мінулага года адзначаны заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, салістка балета Ірына Яромкіна і заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь барытон Станіслаў Трыфанаў.**

## ЯК МАГНАТЫ

Развіццё бальнай культуры ў ВКЛ вызначала прывілеяванае саслоўе — прадстаўнікі вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў ВКЛ — Радзівілаў, Сапегаў, Алелькавічаў, Хадкевічаў, Кішкаў, Трызнаў ды інш. Прывілеяванае саслоўе адыгрывала вядучую ролю ва ўсіх сферах, эліта з'яўлялася значнай часткай грамадства, была рухавіком развіцця, прыкладам узроўню жыцця, паводзін. Цікавасць уяўляюць дзённікавыя запісы Мікалая Радзівіла Сіроткі, дзе ён параўноўвае замежныя традыцыі са звычаямі сваёй зямлі. Ён быў дасведчаным вандроўнікам, у прыватнасці, ездзіў у складзе пасольства ў Парыж.

Своеасаблівай сталіцай культурнага жыцця была Нясвіжская рэзідэнцыя Радзівілаў. Еўрапейскія навінкі танцавальнай культуры, адаптуючыся ў беларускай культурнай прасторы, знайшлі адлюстраванне ў нотных зборніках «Віленскі сшытак», «Полацкі сшытак». «Куранты» змяшчаюць танцавальную музыку заходнееўрапейскіх і беларускіх аўтараў XVI—XVIII ст.

## ПАКЛОНЫ ДЫ РЭВЕРАНСЫ

І вось быт і жыццё мінулых стагоддзяў уваскрасае на паркеце опернага. Гучыць паланэз. Музыка Глінкі раскрывае характар і стыль танца. Дарэчы, жыццё кампазітара супала з «залатой эпохай» рускай бальнай культуры. Яго кампазітарская спадчына — яркая ілюстрацыя праяў той танцавальнай эпохі. Паланэз — «польскі» — згадваецца яшчэ ў XVII ст., але шырокае распаўсюджанне атрымаў у XVIII. Гэтым танцам баль адкрываўся. Усе ўдзельнікі калонай, пара за парай, праходзяць праз усю залу. Рух пар павольны, велічны, змены фігур суправаджаюцца паклонамі. Дарэчы, у той час уменне рабіць паклоны і рэверансы сведчыла пра належнасць да арыстакратыі. «Нават калі вы не ўмееце добра танчыць, вам будзе заслугай уменне добра зрабіць рэверанс», — пісаў у канцы XVII ст. выбітны настаўнік танца Рамо. Рэверанс — адзін з істотных элементаў баляў. Шчодра абменьваліся ўзаемнымі паклонамі танцоры ў Вялікім.

Паланэз змяняе контрданс. Пары настроіліся на дынаміку. Характар у контрданса іншы. Кавалер робіць паклон сваёй даме, потым абменьваецца паклонам з дамай візаві. Дзея ў несупынным руху. Усе даюць адно аднаму рукі, перамяшчаючыся парамі. Далей пара рухаецца наперад і сустракаецца з іншай парай. Тут ужо больш забава, быццам гульня і, канечне, зносіны. Абавязковае правіла контрданса — патрабаванне цотнай колькасці пар. Эстэтычны змест танца адсылае да народных крыніц. Контрданс — па-англійску *country dance* — абазначае «сельскі танец».

> *Развіццё бальнай культуры ў ВКЛ вызначала прывілеяванае саслоўе — прадстаўнікі вядомых магнацкіх і шляхецкіх родаў ВКЛ — Радзівілаў, Сапегаў, Алелькавічаў, Хадкевічаў, Кішкаў, Трызнаў ды іні. Прывілеяванае саслоўе адыгрывала вядучую ролю ва ўсіх сферах, эліта з'яўлялася значнай часткай грамадства, была рухавіком развіцця, прыкладам узроўню жыцця, паводзін.*

Аб'яўляюць вальс, і — прыемнае трапятанне. З усіх танцаў ні адзін не вытрымаў такога доўгага іспыту часам. Класікі музыкі XIX ст. зрабілі несмяротнымі вальсавыя формы ў сваіх творах (Шуберт, Вэбер, Шапэн, Глінка, Чайкоўскі ды інш.). З усіх відаў вальса — вальс у тры па, вальс у два па, вальс-міньён, вальс у левы бок — найбольш любімым быў і застаўся вальс у тры па. Не налюбавацца непаўторным праменадам па крузе. Кожны рух — жывапіс. Балансэ ў правы і левы бок, вальсавыя павароты — фігуры такія выразныя, што вальс выглядае лятучым, лёгкім (галава кружыцца ад насалоды). У імгненне здаецца: у сінхроннасці пары зліваюцца ў агульны віхор, лавіну прыгажосці, здольнай перавярнуць усё…

> *Сама атмасфера балю здавалася напоўненай тысячамі адценняў пачуццяў: ад лёгкага флірту да сустрэч, якія вырашаюць лёс. Галоўная ідэя балю — фарміраванне камунікатыўнага асяроддзя. Шляхецкі баль быў школай зносін.*

## АД ФЛІРТУ ДА СУСТРЭЧЫ

Прывабнасць балю не толькі ў танцах. Менавіта баль — цэнтр свецкага грамадскага жыцця. Сама атмасфера балю здавалася напоўненай тысячамі адценняў пачуццяў: ад лёгкага флірту да сустрэч, якія вырашаюць лёс. (Галоўная ідэя балю — фарміраванне камунікатыўнага асяроддзя. Шляхецкі баль быў школай зносін.)

— Маладыя людзі мелі магчымасць завязаць знаёмствы, паказаць сябе і пашукаць пару, — адзначае кандыдат гістарычных навук, дацэнт, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Анастасія Скеп'ян. — Так, у 1589 г. Януш Радзівіл змог сустрэцца са сваёй нявестаю Соф'яй Слуцкай толькі падчас балю.

— Гавораць, пасля балю ў нас часта жэняцца, — дзеліцца балетмайстар-пастаноўшчык балю, заслужаная артыстка Беларусі Юлія Дзятко. — Карысна выйсці ў свет, адчуць сябе свецкай дамай. Тым, хто першы раз, — даведацца, што такое гістарычны танец.

Сярод навічкоў балю — Аляксандра Ігнатовіч, але ў тэатры яна не ўпершыню — захапляецца операй: «Мне падабаюцца нашы барытоны У. Пятроў, С. Трыфанаў, У. Громаў, з сапрана — К. Галаўлёва, Н. Шарубіна, А. Масквіна. Хочацца іх пачуць, пабачыць. Прагну атмасферы. Далоў стэрэатыпы, маўляў, баль — гэта абавязкова прынц. Мне важней свята, а таксама нестандартнае правядзенне Новага года».



Фота Сяргея Ніканoвіча.

*Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Юлія Дзятко на балі ў ролі музы танца.*

## ПАНУЮЦЬ МУЗЫ

Як уявіць баль без тэматычных салонаў? Традыцыйна працавалі музы Кліа, музы Талія, Тэрпсіхора і інш. Асабліва насычанай была праграма салона муз Эўтэрпы і Эрата, што размясціўся ў камерным зале імя Л. П. Александроўскай. Тут праводзіўся конкурс на лепшы верш-прысвячэнне опернаму тэатру. Неверагодным прыемным сюрпрызам стаў канцэрт «Страсці Алімпа», дзе кіравалі Зеўс і Гера.

Узрост на балі не мае значэння — танец акрыляе ўсіх. Сямейнай пары Галіне і Аляксандру Захаранкам білеты на баль падарылі дзеці:

— Мы з самага першага дня на рэпетыцыях, — распавядае Галіна Захаранка. — Нескладана, бо мы тры гады займаемся бальнымі танцамі ў сацыяльным цэнтры Фрунзенскага раёна.

Бальныя танцы выхоўваюць адчуванне эпохі і стылю. А з разумення эпох пачынаецца асэнсаванне сучаснасці, глыбіні нашай гісторыі, фарміраванне асобы, светапогляду.

**Наталля СВЯТЛОВА**

## Дайджэст

• Хітом бібліятэкі ААН, доступ да якой маюць толькі дыпламаты і супрацоўнікі арганізацыі, прызнаная кніга пра судовы імунітэт. Інфармацыя была змешчаная ў твітары бібліятэкі. Аўтар навуковай работы «Імунітэт кіраўнікоў дзяржаў і дзяржаўных чыноўнікаў у справах аб міжнародных злачынствах», прафесар Універсітэта Люцэрна Рамон Педрэці, дэтальна разглядае пытанне прыцягнення да адказнасці ў міжнародных судах дзеючых дзяржаўных лідараў і ўрадаў увогуле, а таксама іншых катэгорый чыноўнікаў. Найбольшай папулярнасцю дысертацыя карысталася ў выхадцаў з Усходняй Еўропы і асобных краін Еўропы Заходняй, а таксама амерыканскіх дыпламатаў.

• Новая кніга Папы Рымскага выйшла 12 студзеня. Летась Папа, які з'яўляецца першым прадстаўніком Ордэна езуітаў на гэтай пасадзе, спрабаваў свае сілы ў музыцы: выпуск альбома з кампазіцыямі з прамоў Францыска, пакладзенымі на музыку, быў узгоднены з Ватыканам. У аснову кнігі «Імя Бога — Міласэрнасць» пакладзеныя дыялогі з журналістам Андрэа Тарніелі, карэспандэнтам газеты «Стампа». Таксама яна ўключыла апаведы пра святарскае служэнне Францыска ў Аргенціне. Дарэчы, Тарніелі яшчэ раней выпусціў біяграфію папы «Францыск. Папа бедных».

• Беларускія навукоўцы выдадуць на пачатку вясны кнігу «Беларускі эратычны фальклор». Гэта вынік дзесяцігадовай працы Тацццяны Валодзінай і Анатоля Фядосіка. Навукоўцы запэўніваюць, што ў іх рабоце не будзе месца «чарнусе», а мэта кнігі — пашырыць кругагляд беларусаў. У зборніку зборніку будуць прадстаўленыя ўзоры фалькору, сабранага вядомымі фалькларыстамі XIX стагоддзя. Усе запісы максімальна адаптаваныя да сучаснага маўлення, але ў той жа час захоўваюць каларыт розных рэгіёнаў краіны. Некаторыя інтэрнэт-крамы ўжо распачалі перадпродаж кнігі. У сярэднім кошт мусіць скласці 95 тысяч рублёў.

• Праз 50 гадоў пасля ўручэння Нобелеўскай прэміі Міхаілу Шолахаву рассакрэчаныя падрабязнасці яе прысуджэння. Высветлілася, што канкурэнтамі савецкага пісьменніка былі Пабла Неруда і Хорхе Луіс Борхес. Таксама сярод прэтэндэнтаў значыўся Уладзімір Набокаў, якога сваім лічылі адначасова ЗША і Расія.

• Невядомыя тэксты Казіміра Малевіча знойдзеныя ў Кіеве. Пры вывучэнні архіва Мар'яна Крапіўніцкага былі выяўленыя цікавыя дакументы, звязаныя з кіеўскім перыядам жыцця і творчасці мастака. Сярод іх найбольшую цікавасць выклікаюць стэнаграфіі выступаў Казіміра Малевіча. Чатыры з пяці знойдзеных тэкстаў раней былі невядомыя даследчыкам і мастацтвазнаўцам. Іх плануюць апублікаваць ужо ў лютым да правядзення ў Кіеве штогадовай канферэнцыі ў гонар Малевіча. Адзін з запісаў якраз з'яўляецца стэнаграфіяй выступу мастака перад інтэлігенцыяй па пытаннях развіцця культуры ў Кіеве на пачатку XX стагоддзя. Іншы тэкст прысвечаны развагам пра стварэнне даследчыцкага эксперыментальнага кабінета ў мясцовым мастацкім інстытуце.

• Будаўніцтва беларускай царквы распачнецца ў Лондане. 7 лютага адбудзецца абрад закладжання краевугольнага каменя царквы Святога Кірылы Тураўскага і Усіх Святых заступнікаў беларускага народа. У цырымоніі возьмуць удзел дыяцэз грэка-каталіцкай дыяцэзіі Святога Сямейства біскуп Глеб Ланчына і Апостальскі нунцый у Вялікай Брытаніі Антоніё Мэніні. Царква будзе збудаваная побач з Бібліятэкай імя Францыска Скарыны. Архітэктарам выступіў лондансі архітэктар і парафіянін беларускай грэка-каталіцкай царквы Рафаэль Цзыўай Со. Праект спалучае элементы сучаснай архітэктуры і традыцыйнай архітэктуры беларускіх храмаў. Завяршэнне будаўніцтва царквы плануецца сёлета ўвосень.

Людміла КЕБІЧ



## Спадарожнік

*Ну што ты можаш мне прапанаваць,*
*мой добры выпадковы спадарожнік,*
*калі я ўжо даўно, як падарожнік,*
*уздоўж дарогі лёсавай — трава.*

*Навошта мяне клічаш і куды,*
*мой добры спадарожнік выпадковы,*
*калі я ўжо даўно не веру словам,*
*што ловяць душы, нібы невады.*

*Твой позірк зацікаўлены па мне,*
*нібы пражэктар, сярод цемры шнарыць,*
*ды высвятляе адно шнары, шнары,*
*іх нават новы час не праглыне.*

*Я позірк твой дапытлівы лаўлю —*
*адпрэчаны не быў, відаць, ніколі… —*
*І разглядаю нешта там на столі,*
*чым на камлі намеры ўсе рублю.*

*Бо што ты можаш мне прапанаваць*
*у гэтым раскатурханым вагоне,*
*калі мы ўжо па-за мяжой агоній,*
*і заўтра нам… на досвітку ўставаць.*

## Санет

*І дзень, і ноч бяжыць Гараднічанка.*
*Адкуль і ад каго яна бяжыць?*
*Няўжо і ёй няма чым даражыць —*
*у берагоў вунь новая агранка!*

*Аб чым булькоча да ружовай пены?*
*Хто рупіць яе гонкую ваду?*
*Мо прадчувае хуткую бяду*
*ці хоча нагадаць накцюрн Шапэна,*

*Які выконвала я так старанна,*
*выпешчвала кажнюсенькі фаршлаг*
*на бела-чорных тонах фартэп'яна.*

*Тады яны гучалі беззаганна*
*і ўзносілі над светам, нібы сцяг,*
*маёй душы і будучыні гмах.*

## О, Беларусь

*О, Беларусь мая, —*
*рай для вачэй!*
*Зорныя колеры*
*ціхіх начэй.*
*Ранак вясёлкавы,*
*сонечны дзень,*
*сэрцы адкрытыя*
*добрых людзей.*

*О, Беларусь мая, —*
*родны мой кут!*
*Шчасце, што я*
*нарадзілася тут,*
*дзе васільковая*
*неба вуаль,*
*светлы, як мара,*
*рамонкавы баль.*

*Дзе разняволены*
*думкі і сны,*
*белыя крылы*
*ў буслоў і вясны.*
*Дзе векавечныя*
*сосны і сум,*
*дзе я свой крыж*
*без ваганняў нясу.*

*Тут, па-над Нёманам,*
*родны мой дом,*
*дзе п'ю любоў*
*і каханне нагбом.*
*Тут мая мова*
*мілей і званчэй…*
*О, Беларусь мая, —*
*рай для вачэй!*

## Трыялеты

***

*Дапішу, пастаўлю кропку*
*і пайду гуляць да свету.*
*Самавіта, нетаропка*
*дапішу, пастаўлю кропку.*

*Прыме ноч гульца-паэта,*
*сыпне вершаў новых копку.*
*Дапішу, пастаўлю кропку*
*і пайду гуляць да свету.*

***

*Як да провада электрычнага,*
*дакрануся душой аголенай*
*да цябе — журбы неспатоленай, —*
*як да провада электрычнага.*

*Да прыдумца свайго міфічнага,*
*як да прагі кахаць намоленай,*
*як да провада электрычнага,*
*дакрануся душой аголенай.*

***

*Абляцелі пялёсткі акацыі,*
*я па іх, як па снезе, ступаю*
*і, на жаль, не цябе ўжо чакаю —*
*абляцелі пялёсткі акацыі.*

*Абсалютна не летняя акцыя:*
*з успамінаў цябе вымятаю…*
*Абляцелі пялёсткі акацыі,*
*я па іх, як па снезе, ступаю.*



*Фота Кастуся Дробава.*

Антон АНІСОВІЧ



## У вёсцы

*Я назаўсёды з вёскай лёс звязаў.*
*А ён і не «развязваўся» ніколі.*
*Род на зямлі мой вечна працаваў,*
*Тут свой уклад, і час ідзе паволі.*

*У вёсцы ты заўсёды на вачах:*
*Сам ведаеш усіх, цябе ўсе знаюць.*
*І ў час, калі бяда пяройдзе шлях,*
*Табе тут шчыра ўсе паспагадаюць.*

*Павагу ў вёсцы цяжка заслужыць,*
*Калі гультай ты і жывеш няшчыра.*
*З суседзямі старайся ў згодзе жыць,*
*Нягоднікаў не любяць і прайныраў.*

*У вёсцы нават дыхаеш лягчэй,*
*З людзьмі на роднай мове размаўляеш.*
*Пасля сустрэч становіцца святлей,*
*І радасней сябе ты адчуваеш.*

*Я назаўсёды з вёскай лёс звязаў,*
*Ды ёй я і не здраджваў аніколі.*
*Пра вёску ў вершах многае сказаў.*
*Жадаю ёй здароўя, добрай долі!*

## Зіма

*Ціха! Памаўчыце, калі ласка!*
*Цішыню начную не трывожце.*
*Кружацца сняжынкі, нібы ў казцы,*
*То зіма збіраецца у госці.*
*Белае адзенне апранае,*
*Лёд на рэках замяніў люстэрка.*
*Косы ёй Снягурка заплятае.*
*Пэўна ўжо апошняя прымерка.*

*Сам Мароз за фурмана на ганку,*
*У валёнкі цёплыя абуты.*
*Для зімы запрэжаная ў санкі*
*Тройка коней: снежань, студзень, люты.*

*Не спяшайцеся, пастойце, калі ласка!*
*Прыгажосць такую не трывожце.*
*Падаюць сняжынкі. Гэта казка.*
*Добры дзень, зіма! Заходзь у госці!*

## Па-дэ-дэ (танец дваіх)

*Я сам не танчыў — толькі назіраў*
*За тым, як танцавалі двое.*
*Для іх як быццам свет не існаваў,*
*І ўражанне было такое*

*Ад танца гэтага ў мяне,*
*Нібы знаходжуся ў палёце,*
*У нейкім незвычайным сне.*
*І ад напружання перасыхала ў роце.*

*А танец доўжыўся, і музыка гучала,*
*Тэмп нарастаў, рытм сэрца пачашчаўся.*
*А потым музыка павольна заціхала,*
*Для іх жа танец вечна прадаўжаўся.*
*У ім былі пяшчота, захапленне.*
*Узмахі рук нагадвалі мне крылы.*
*Якое гэта дзіўнае імгненне!*
*І я ж калісьці ў танцы чэрпаў сілы…*

## Лёс старажытных гарадоў

*У гарадоў лёс непадобны, розны,*
*Нагадвае ён нечым лёс людзей.*
*У аднаго — шчаслівы, іншы — слёзны.*
*Залежыць лёс ад часу і падзей.*

*А гарады маёй святой Айчыны*
*Вядомыя яшчэ з сярэднявечча.*
*Узводзілі іх балты і ліцвіны,*
*Трагічны лёс, аднак. Бесчалавечнасць.*

*З «зайздросным» іх знішчалі*
*пастаянствам,*
*Нявалілі і дзетак, і жанчын.*
*Палілі храмы, рабавалі ўбранства*
*Ды забівалі з жорсткасцю мужчын.*

*Бо войны тут каціліся, як хвалі,*
*Зямлю таптаклі Захад і Усход.*
*З кім толькі гарады не ваявалі*
*І што ў асадах выцерпеў народ!..*

*Слуцк, Орша, Полацк, берагі Нямігі,*
*Гародня, Быхаў, Магілёў, Бярэсце...*
*Пра вас напісаны легенды, міфы, кнігі.*
*Змаглі вы славу праз вякі пранесці!*

Вера МІХНО



***

*Імчаць думкі-планы, што коні,*
*Нацягваюць лейцы, ірвуць.*
*Нібы ад шалёнай пагоні,*
*Наперад, у заўтра, бягуць.*

*Галопам у пене, ды ў пыле.*
*Здаецца, сам Чорт ім не брат.*
*А Бог закілзае, супыніць,*
*Ды ўладна асадзіць назад…*

***

*Каханне да цябе —*
*майго жыцця крыніца,*
*Ды прыйдзе час дзвярам у вечнасць*
*адчыніцца.*
*Тады апошні ўдых у Бога вымалю*
*І на апошнім выдыху я вымаўлю*
*Тваё імя.*

***

*Твар анёла, птушкі голас,*
*Малака з грудзей струмені.*
*Мацярынства вечны вобраз:*
*Німб, дзіцятка на каленях.*
*Як сялянкай, так мадоннай*
*Увасобленая маці*
*На партрэтах, на іконах,*
*Ад якіх святлее ў хаце.*

*З кім жа побач, як не з маці,*
*Так спакойна, так утульна?*
*Шчасце поўнае шаптаць ёй:*
*— Мама родная, матуля!*

*Ды святой любоўю грэцца*
*Ад маленства і да скону.*
*За дзяцей матулі сэрца*
*Міраточыць, што ікона.*

***

*Бягу басаногай*
*У мамай пашытай сукенцы квяцістай*
*Пясчанай дарогай*
*Па вёсцы старэнькай на бераг*
*дзяцінства.*

*Лілеі што кралі, вадзіца бы шкельца.*
*Хачу, як калісьці,*
*Каб гушкалі хвалі маленькае цельца,*
*Нібыта ў калысцы.*

*Душы ў грудзях цесна.*
*Жывём на зямельцы часова, бы госці.*
*Дык маннай нябеснай*
*Здаецца для сэрца ўспамін маладосці.*

## Чаканне

*Я на кожны стук*
*Матыльком ляту,*
*І на кожны крок*
*Працінае ток.*

*Ды ніводзін стук*
*Нежаданых рук,*
*Аніводны крок*
*Не ў мой бок…*

Уладзімір НАВУМОВІЧ



# Рагнеда

*Навела*

— Беларусь — гэта нейкая італьянская выспа.

— Беларусь — не востраў «*Bela Rus*» у Цірэнскім моры паблізу Італіі. Гэта наша з табой біяграфія, гэта наша з табою родная і любімая зямля.

Дзяўчо налятала на субяседніка, як каршун налятае на куранят — пераціскае горла па адным. Горача:

— Летапісец пісаў: «…а славяне (маюць княжанне) свое Новгороде, а другое на Полоте, иже Полочане, от них же Кривичи иже сидят на верх Волги, а на верх Двины и на верх Днепра…», «также Север от них…». Па гэтых землях пралягаў шлях «з вараг у грэкі».

Высокая, танканогая і паджарая белагаловая дзяўчына як рэпу грызла завучаным гістарычным тэкстам, узвышаючыся над студэнцкім натоўпам каля ганка гістарычнага факультэта, нібыта здаючы іспыты суроваму і занудліваму Цэсарыку, які на дух не пераносіў беларускай даўніны, ніколі не тое што слухаць — прызнаваць не жадаў ні «вашага паганскага ВКЛ», ні самастойнасці «нейкай там Беларусі», хоць сам выкладаў курс гісторыі роднага краю. Дзяўчына растрапала косы, параскідала валасы па плячах, заірдзелася сама, бы пунсовая зорка, пакрыўджана падціснула поўненькія губкі, страпянулася, як верабей, што выпырхнуў з-пад страхі, усім целам падалася наперад, падбачэнілася. «А што? «Брэйн дрэйн» — паплывуць мазгі за мяжу. *Brain drain*», — паўтарыла па-англійску. Эліта — тая частка грамадства, якая першай крочыць у будучыню. Альбо яе бачыць. Так, яна, гэта была яна — Рагнеда Сабалько! Яе лёгка было распазнаць па гарэзлівым, агністым паглядзе, па настроенасці на лідарства і па маланкавай рэакцыі на словы, што несліся з натоўпу.

— Так! Была чырвоная Русь на поўдні, дзе Галіцыя і Львіў, чорная — вышэй Навагародка, Белая, альбо цэнтральная, — Максім Уладзіміравіч Хрысцевіч ведаў: гэта былі каляровыя, этнаграфічныя канцэпты паходжання назвы краю. Праваслаўныя ўсходнеславянскія землі. Прыхільнікі веравызначальнай (канфесійнай) гіпотэзы называлі чыстымі — там не захавалася язычніцтва. Тут жылі людзі ў белым адзенні! Зімой насілі зіпуны, такія кажушкі, выробленыя з скуры ды падпясаныя чырвоным пасакам, летам — нагавіцы, белыя кашулі з палатна, вышытага блакітным васільком-вышыванкай. Танюсенькае, што сувой палатна праз пярсцёнак праходзіць: жніўенскімі росамі прапітаны, пранікамі выбіты. Рагнеда не здавалася, тачыла як шашаль дошку, даказвала сваё. Упартасць дзяўчыны падкупляла так, што Хрысцевіч з захапленнем прадаўжаў слухаць, хоць спыніўся на адно імгненне.

— Паводле рукапісаў, якія знаёмы яшчэ Тацішчаву, аўтару «Жывапіснай Расіі», вядома, што ў 1135 годзе князь Юрый «возвратился в свою область — Белую Русь».

— Ці не доказ паходжання назвы «Белая Русь»?

— А Іпацьеўскі летапіс, венецыянскі пасол Марка Фраскіні, Ян Чарнкоўскі, Ян з Вісліцы ў «Прускай вайне»? Усе яны згадваюць пра Белую Русь.

Рагнеда не супынялася. Ёй трэба было канчаткова дамагчыся праваты. Хтосьці прыгадаў Хроніку Аляксандра Гваніні, які 18 гадоў пражыў на тэрыторыі Беларусі, што Белую Русь разумеў у XV стагоддзі з цэнтрам ажно ў Маскве. Тое ж у Хронікі Мацея Стрыйкоўскага. Нарэшце выйшла наперад Рагнеда Сабалько, выдала казырную:

— Белая — бо свабодная! Яна здолела пазбегнуць татара-мангольскага нашэсця, застацца вольнай, свабоднай — «белай».

Заіскрылася ўся, зачырванелася як макаў цвет… «И губы алеют в вине, и лоб флердоранжем обвит, и будет она шептать о любви, что любви нет». Усплылі ў памяці радкі Сяльвінскага, вывучаныя яшчэ ў школе. Рагнеда Сабалько, сяброўка Анастасіі Вейгі, пры напамінку пра якую аж заходзілася ад тугі сэрца, вартая сваёй гістарычнай папярэдніцы. Падумалася ў такую хвіліну: якія ж мы, беларусы, недальнабачныя, раструханцы — распетрылі, забыліся, параскідалі па дарогах, як салому з воза, духоўныя нашы складнікі, сюжэты айчыннай гісторыі, не жывём гэтым, дзяцей і ўнукаў не гадуем на павазе да ўчынкаў сілы духу народа свайго, прапрапрашчура, дзеда, маці, бацькі. Якую легенду маем! Але як яе трымаемся! Па той жа самай зямельцы-маці ходзім, тыя ж самыя кветачкі-зёлкі збіраем, на лес, поле, рэчку глядзім, аблокамі дзівуемся, якія плывуць над намі, як плылі і тады, калі здарылася тая гісторыя. Можа, сто разоў пісаная-перапісаная, у шматлікіх варыянтах перажытая, выкладзеная, расказаная, а вось нацыянальным эпасам не стала. На палотнах векавечных не пакінутая. З вуснаў у вусны не пераказаная, нашай усіхняй свядомасцю не стала. З пакалення ў пакаленне не агорнутая памяццю, сімвалам цнатлівасці, духу, маралі не ашчаджаная. Гісторыя, якую ўсе ведаюць, але ніхто не ўспрыняў як сваю асабістую. Сюжэт пра тую, першую, Рагнеду і яе сына Ізяслава. Во-во, пра таго Ізяслава, чыім імем горад Заслаўе сёння называецца. Рагнеда ды Ізяслаў! Стаяць уваччу, як волаты-прывіды. Маці і сын, адвечна скаваныя повяззю адной, адной душой і сэрцам адным. Стаяць, як умураваныя, як слупы солі. Скрэпы маральныя і духоўныя. У самім Заслаўі помнік такі пастаўлены. Але ці кожны дойдзе, даедзе, прыляціць на аэраплане, пешшу прышкандыбае, міма ідучы, з дарогі зверне, да зямлі паклоніцца? Так і стаяць яны перад намі.

***

— Тата, забі найперш мяне! — стаў на абарону маці сваёй сын сямігадовы, калі бацька меч булатны над паланянкай-палачанкай падняў. І ўзняў ужо сын маленькі меч-забаўку. Не з граніту, не з булатнай сталі — брыльянтавы меч свой. Вось учынак, варты мужчыны і воіна. Дзень сталення, адказнасці не за сябе — за маці і белы свет. Сын маці засланіў! Сумны першы ўрок юнака, жорсткая проба разарванай сувязі часоў, сувязі пакаленняў, скрывянелага сэрца. Сама гісторыя добра вядомая кожнаму адукаванаму чалавеку — як двое хлапцоў-князёў палюбілі адну дзяўчыну. Выбрала яна сама сабе суджанага, ды прыйшоў першы, забіў бацьку, маці, сялібу спаліў, горад зрабаваў, забраў дзяўчыну з сабою, завёз у Кіеў, стаў жыць з ёю. Сына прыдбалі, падрос малеча, рыцарам гадаваўся, але не магла дачка дараваць смерці бацькоў, разбуранага гняздоўя. Вырашыла адпомсціць. І тады ж, даведаўшыся пра змову, князь ноччу зайшоў у спальню жонкі сваёй, захацеў паквітацца з ёю.

«Бацька! Забі мяне спачатку!» — чуцен сынаў голас, кволы, але рашучы. Выслаў іх удваіх князь у глухамань, дзе і паўстаў горад, названы Заслаўем — імем сына-воіна. А гісторыя імя дзяўчыны, Рагнеды Сабалько, не менш міфічная. У сям'і ўрачоў нарадзілася дачка. Тыдзень праходзіць, год, яшчэ паўгода, але ад іх ні слыху ні дыху. У адведкі мужчыны не ходзяць — людзі засмяюць. Званкі пайшлі адзін за адным. «Браце, разводзімся! Імя не можам дзіцяці падабраць». І ён упёрся, і яна. Кожны ў сваю радню цягне. «І сварку тым яны канчалі, што гэту скварку разразалі». То ў Коласа. А тут? Не рэзаць жа па жывым! Тады аднойчы наважыўся жаніх былы: пайду, скажу, як захачу, так і назаву. Доўга не было маладога бацькі. Вярнуўся, як ночка цёмная спусцілася на зямлю, лёг спаць як пшанічку прадаўшы. Жонка цішком-крадком, як баец у разведку, запаўзла ў спаленку, у шуфлядачку залезла ручачкай беленькай, кругленькай, бы тачонай, ды пацыху пасведчанне аб нараджэнні выцягнула. Чытае… Ёй гавары, а яна брык дагары, крыку, енку — хоць мёртвых з хаты выносЬ, а што жывым не вытрымаць, дык дакладна. Ляманту на ўвесь свет. «Што ты зрабіў, паганец! Абязвечыў дзіцятка. З яе ж смяяцца будуць». Чытае: «Рагнеда». Як толькі дзяўчыну ў школе і да школы не называлі: Рэня, Рэгіна, Рэната, Рыта, Рытуля, нават Лада. А вырасла дзяўчо, вярнула сабе імя Рагнеда, паступіла (куды б вы думалі?) на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта — і сябры-студэнты прызналі яе лідарам. Дзе б ні сабраліся на «тусоўку» студэнты розных факультэтаў, адусюль нясецца-агалошваецца імя дзяўчыны. Даносіцца з розных бакоў. Гатовая павесці за сабой хоць куды, хоць калі. І ёй даверыўся кожны з тых, хто дасюль абпальваў бровы, сядзеў, як сярэдневяковы тубылец у келлі над свечкай, якая ўсё дагарала і дагарала, пакуль брыво не падсмаліцца. Студэнты гамузом пайшлі за Рагнедай Сабалько. Над дамамі і паркамі разнеслася гучнае, раскацістае, звонкае імя нашай сучасніцы:

— Рагнеда-а-а-а-а!

*Эсэ*

Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

# Ён



Ён, напэўна, мог бы лічыцца лавеласам. Мяркуйце самі: да мяне ў яго была цэлая процьма дзяўчат, і пасля мяне будзе ці не болей. Да таго ж, у нас вялікая розніца ва ўзросце. Велізарная. Нават не дзесяць, не дваццаць гадоў, а — усе пяцьдзясят. Прымушае задумацца, ці не так?

І ўсё-ткі вельмі люблю яго. З самай першай сустрэчы.

Ён — філфак.

Помню, калі завітала да яго ўпершыню. Фае былой партыйнай школы, змрачнатае, закаванае ў мармур, падалося мне падобным да тэатральнага. Як у тэатры, усё было працята чаканнем, і вялікі электронны гадзіннік насупраць увахода надзвычай цырымонна адлічваў хвіліны. Як у тэатры, вірыў люд, усе гаманілі, усе кудысь спяшаліся, адбіваліся на хвілінку ў велізарных люстрах — і тут жа крута паварочвалі, і знікалі на лесвіцах у невядомае.

— А дзе тут актавая?.. — нясмела запытала я ў студэнтаў, якія, беглі з надта засяроджанымі тварамі і стосамі спісаных паперак.

— Там! — адразу ж адказалі мне. І пяць рук паказала пяць розных кірункаў.

У буфеце распраўляліся з катлетамі, пілі гарбату і смяяліся паўнапраўныя філфакаўскія навучэнцы. Я, якая тады толькі планавала сваё паступленне, глядзела на іх, як падавалася, надта загадкавых, дарослых і недасяжных, ледзь не з жахам. Катлеты, ува ўсякім выпадку, імпанавалі мне значна болей.

Актавая зала ўразіла — найперш — да дрыжыкаў агромністай люстрай пад столлю. Я выразна чула, як двое такіх самых абітурыентаў, як і я, баязліва пазіраючы ўверх, горача шапталіся.

— …а раптам зваліцца? — данеслася да мяне.

Парачка шаптуноў перасела. Пакінутыя крэслы з сухім скрыгатам запляскалі ім услед, і аўдыторыя, спрэс са знерваваных абітурыентаў, гэтае плясканне падхапіла, на ўсякі выпадак выдаўшы апладысменты.

Мусіць, ужо там, у актавай зале, якую вартавалі гіпсавыя Колас і Купала, дзе з-за заслоны нясмела паглядала белая галава Леніна, я зразумела: гэта — маё. І падобны да тэатральнага вестыбюль, і замглёныя люстры на сценах, і шумлівы натоўп, і загадкавы паўзмрок на лесвіцах. Ад думкі, што я буду тут вучыцца, што буду мець поўнае права на ўсе мясцовыя загадкі, ажно трохі круцілася ў галаве.

А загадкі паказалі сябе некалькі пазней. Дакладней, у першы тыдзень навучання, калі пасля досыць працяглага блукання па калідорах так і не атрымалася адшукаць спартыўную залу.

— Трэба выйсці на бакавую лесвіцу паміж трэцім і чацвёртым паверхамі, — ахвотна тлумачылі мне. — А тады падняцца. Леваруч і будзе.

— Можна, праўда, і з чацвёртага дабрацца, — радасна падхоплівалі тут жа.

— Не-не-не, вось гэта не варыянт, — хіталі галавой. — Толькі з трэцяга.

— Ну, ці з другога, — заўважалі напаўголаса. — Толькі тады падымацца вышэй.

Усе гэтыя парады, як ні дзіўна, дапамаглі мала. Я марна выпісвала колы, быццам канкістадор укруг Эльдарада, і так і не знайшла ані выхадаў з трэцяга на чацвёрты, ані з чацвёртага на трэці.

Гэтых самых «бакавых» лесвіц, як выявілася пасля, было дзве.

Лесвічнае пытанне вырашылася яшчэ праз два тыдні. Прыблізна столькі патрэбна першагодку, каб нумары аўдыторый і маршруты да іх сяк-так урэзаліся ў памяць. Гэта, вядома, не азначае, што абыходзілася без блытаніны і беганіны. Хутчэй, наадварот: беганіна і блытаніна ўзрасталі ў геаметрычнай прагрэсіі.

Падчас перапынкаў усе стройнымі радамі скіроўваліся ў буфет. Шукалі ежы не толькі для страўніка, але і для галоваў — у букіністычным кіёску. Сродкі ў студэнта невялікія, таму часам даводзілася абіраць паміж галавою і жыватом. Зрэшты, што да кітовага спеву пустога страўніка, калі ў цябе ў руках шыкоўнае і такое жаданае выданне «Старэйшай Эдды», ды ў добрым перакладзе, ды з ілюстрацыямі, ды ў супервокладзе!

Так, філфак вучыць правільна расстаўляць прыярытэты.

Ён, філфак, заўсёды побач. Ён, гарэзлівы, рознымі почыркамі перапраўляў строгія аб'явы «Не пакідайце вашы рэчы на калідоры» на багушэвічаўскі лад: «Каб не ўпёрлі».

Ён на вялікіх аркушах з цукровымі прызнаннямі і сардэчкамі, падрыхтаванымі да чатырнаццатага лютага, на непадпісанае, шматкроць абведзенае чырвоным стрыжнем «Люблю Беларусь» заўжды адказваў:

— То ўзаемна.

Ён жывіўся графіці на старых партах, патыхаў дробным кніжным пылам. Бліжэй да вечара стомленыя паркетныя дошкі распраўлялі спрацаваныя спіны, і падавалася: гэта ён нягучна пераводзіць дыханне.

Ён — гэта людзі, якія вучаць і вучацца, якія працуюць на ім. І тыя людзі, што працавалі калісьці, і тыя, што яшчэ будуць працаваць. Усе, купна, паяднаныя ў пазачасавае адзінства.

Ён — філфак.

# Літаратура, на агляд!

## Манаграфіі-2015: падказкі, памылкі і новыя шляхі

**Пачуваецеся няўпэўнена, калі гаворка датычыць інтэрмедыяльнасці і наратыўнасці? Не ведаеце, якіх беларускіх паэтаў варта далучыць да імпрэсіяністаў? Не можаце за некалькі хвілін пералічыць характэрныя рысы сучаснай беларускай літаратуры? У гэтым выпадку манаграфіі беларускіх літаратуразнаўцаў будуць добрай магчымасцю заўважыць новыя адметнасці класічных і сучасных твораў ды павялічыць тэрміналагічны багаж.**

### ЧЫМ АДМЕТНАЯ НЛС?

Цяжка ўявіць чалавека, які імкнецца асэнсаваць сітуацыю ў сучаснай літаратуры, але ніколі не звяртаўся да кнігі Ганны Кісліцынай «Новая літаратурная сітуацыя: змена культурнай парадыгмы» (2006). З невялікімі зменамі і скарачэннямі тэкст гэтага даследавання патрапіў у новую манаграфію аўтара **«Культурны градыент: ідэі, маніфесты, кірункі беларускай літаратуры на мяжы XX — XXI стагоддзяў»**, дзе з'явілася і некалькі новых частак.

Для неэкспертаў гэта выданне будзе выдатнай магчымасцю папрактыкавацца ва ўспрыманні навуковых тэкстаў, бо нават у манаграфіі Ганна Кісліцына застаецца абаяльным і цікавым аўтарам, які ашчаджае час і ўмее лаканічна прааналізаваць мастацкі тэкст ці акрэсліць сутнасць праблемы. Дзякуючы выкарыстанню сацыякультурнага метаду Новая літаратурная сітуацыя разглядаецца не толькі ў сістэме эстэтычных катэгорый, але і ў шырокім кантэксце грамадскага жыцця.

Змест манаграфіі акрэсліваецца ва ўводзінах: «Аўтар бачыць сваю задачу ў стварэнні паўнавартаснай карціны літаратурнага жыцця з 1985 года да канца першага дзесяцігоддзя 2000-х гадоў, карціны, якая не толькі апісвала б новыя працэсы і тэндэнцыі, але і падмацоўвалася б аналізам літаратурных маніфестаў, буйных літаратурных дыскусій, а таксама самых яскравых і прадстаўнічых твораў у паэзіі, прозе, драматургіі». Істотная заўвага: аб'ектам даследавання з'яўляецца творчасць «літаратурнай эліты, якая фарміруе нацыянальны светапогляд». Наяўнасць ці адсутнасць асобных імёнаў у складзе эліты можа выклікаць пытанні — але агляд творчасці шматлікіх аўтараў пераконвае ў слушнасці высноў.

Так, у новай частцы «Маральна-эстэтычныя пошукі беларускай літаратуры 2010-х гадоў: спасціжэнне свету і чалавека» аналізуюцца творы В. Быкава, А. Глобуса, А. Федарэнкі, Ю. Станкевіча, В. Іпатавай, Ф. Сіўко, С. Балахонава, Е. Вежнавец... Але найперш аўтар нагадвае пра страчаную літаратурацэнтрычнасць культуры, якая абумоўлена недаверам сучаснікаў да метанаратываў і рухам у бок візуалізацыі, што мае вынікам, напрыклад, папулярнасць паэтычных слэмаў.

У манаграфіі аглядаецца развіццё не толькі мастацкай літаратуры, але і літаратурнай крытыкі. Навукоўца адзначае недахоп аналітычных прац, прысвечаных сучаснай літаратуры (асабліва відавочны на фоне суседняй Польшчы), згадвае самыя яркія публікацыі апошніх дзесяцігоддзяў, канстатуе




крызіснае становішча сучаснай крытыкі — нягледзячы на наяўнасць цікавых маладых аўтараў. Заканамерна, што, чым больш праблем закранаецца ў даследаванні, тым больш адкрытых пытанняў застаецца для тых, хто займаецца адпаведнай тэмай.

Паводле Ганны Кісліцынай, Новая літаратурная сітуацыя характарызуецца дэіерархізацыяй і дэкананізацыяй, прагрэсуючай дынамікай стылявой шматстайнасці, зменай гендарнага балансу на карысць пісьменніц-жанчын. Эксперыменты маладых аўтараў «зрушваюць літаратурны канон беларускай савецкай літаратуры», да таго ж у азначаны перыяд з'яўляюцца творы выразна постмадэрністычнага кірунку.

> *Яўген Гарадніцкі падкрэслівае плённасць максімальна шырокага погляду на літаратуру, звяртае ўвагу на інтэрмедыяльнасць як выяўленне тыпалагічнай блізкасці мастацтваў. Акрэсліваючы шматбаковую сувязь між літаратурай, музыкай і выяўленчым мастацтвам, даследчык адзначае неабходнасць міждысцыплінарных даследаванняў і падказвае цікавыя падыходы.*

Па сутнасці, даследаванне Ганны Кісліцынай стварае не столькі карціну літаратурнага жыцця, колькі адну з магчымых мадэлей гісторыі новай беларускай літаратуры. Вядома, літаратурнае жыццё мяжы XX — XXI стагоддзяў — гэта не толькі «Тутэйшыя», Таварыства Вольных Літаратараў ды «Бум-Бам-Літ», але і не менш цікавая гісторыя літаратурна-мастацкай перыёдыкі (змены ў складзе рэдакцый, абумоўленыя зменамі канцэпцыі асобных выданняў) альбо асяродкаў даследавання і выкладання беларускай літаратуры, дзейнасць якіх мае непасрэдны ўплыў на стаўленне сучаснага чытача да айчыннай літаратуры. Іншыя аспекты даследавання Новай літаратурнай сітуацыі яшчэ будуць рэалізаваны — прынамсі, таму, што ў Ганны Кісліцынай заўсёды атрымліваецца зацікавіць прадметам уласнай увагі.

### КУЛЬТУРНЫ КАНТЭКСТ

Яўген Гарадніцкі ў манаграфіі **«Літаратура як мастацтва: камунікатыўнасць, інтэрмедыяльнасць, наратыўнасць»** прапануе засвоіць новыя паняцці, згадаць ключавыя моманты ў развіцці беларускай літаратуры, узгадаць творчасць некалькіх дзясяткаў айчынных пісьменнікаў — ад Ф. Багушэвіча і Я. Коласа да М. Купрэева і В. Карамазава.




Напачатку даследчык падкрэслівае плённасць максімальна шырокага погляду на літаратуру: «Разгляд літаратурнай творчасці ў кантэксце агульнай мастацкай прасторы, у яе цеснай спалучанасці з іншымі відамі мастацтва, дае магчымасць ажыццяўлення новых даследчых падыходаў пры аналізе літаратурнага твора». Адсюль вынікае ўвага да інтэрмедыяльнасці як выяўлення тыпалагічнай блізкасці мастацтваў. Акрэсліваючы шматбаковую сувязь між літаратурай, музыкай і выяўленчым мастацтвам, Я. Гарадніцкі адзначае неабходнасць міждысцыплінарных даследаванняў, падказвае цікавыя падыходы — напрыклад, зварот да праблемы «ўвасаблення ў творах выяўленчага мастацтва літаратурнай тэматыкі, у прыватнасці, раскрыцця вобраза пэўнага пісьменніка або прадстаўлення/інтэрпрэтацыі вобразаў яго творчасці». Сам жа Яўген Гарадніцкі абірае больш традыцыйны шлях і звяртаецца да вобразаў мастакоў і артэфактаў, якія сустракаюцца ў літаратуры. Вядома, аналіз мастацкага тэксту асабліва ўражвае, калі даследчык праз супастаўленні і высновы прыводзіць да нечаканага адкрыцця, выяўляе ў творы новую канцэпцыю ці раскрывае адмысловую мастацкую логіку — што атрымліваецца, напрыклад, пры разглядзе «Апавядання аб іконніку і залатару...» М. Багдановіча.

У раздзеле «Камунікацыя» Яўген Гарадніцкі акрэслівае спецыфіку мастацкай камунікацыі, а потым праз увагу да мовы як матэрыялу літаратурнай творчасці пераходзіць да аналізу мастацкага стылю асобных пісьменнікаў. Даследчык абмінае вылучаную Ганнай Кісліцынай праблему камунікатыўнага правалу ў дачыненнях між беларускім пісьменнікам і большасцю сучасных чытачоў, хаця і адзначае, што літаратурны твор атрымлівае сапраўднае існаванне толькі праз рэалізацыю ў свядомасці чытача. Аналіз перашкод у працэсе камунікацыі альбо спецыфікі ўяўленняў беларускага пісьменніка пра свайго адрасата быў бы надзвычай карысным — але гэты напрамак даследавання застаецца ледзь-ледзь азначаным.

Раздзел «Наратыўнасць» распачынаецца зваротам да праблемы аўтарства. Я. Гарадніцкі нагадвае пра зменлівае разуменне паняцця аўтарства з часоў Сярэднявечча і засяроджваецца на спецыфіцы фальклорнага ўплыву на беларускую літаратуру пачатку XX стагоддзя. Тэзіс Р. Барта пра смерць Аўтара застаецца ў манаграфіі па-за ўвагай — затое чытач мае магчымасць пазнаёміцца з наратыўным аналізам некалькіх мастацкіх твораў, які, не вядзе да глабальных высноў, а застаецца проста ўзорам. Выбар тэкстаў чамусьці не абгрунтоўваецца, да таго ж у трэцім раздзеле, як і ў самой кнізе, відавочна бракуе заключэння-падагульнення.




Затое з манаграфіі можна даведацца пра паштоўку М. Багдановіча да В. Брусава, пра характэрную асаблівасць творчасці У. Караткевіча, раскрытую А. Мальдзісам яшчэ ў 1962 г., пра прычыны папулярнасці сказавай формы ў беларускай прозе пачатку XX стагоддзя. Вельмі зручнымі апынаюцца прадметны індэкс, індэкс літаратурных твораў і індэкс імёнаў, якія дапамагаюць арыентавацца ў кнізе.

Да апошніх старонак не пакідае спадзяванне, што праз зварот да паняццяў сучаснага літаратуразнаўства будзе раскрыта ўнікальнасць не толькі асобных твораў, але і пэўнага перыяду ў беларускай літаратуры — аднак шлях да шырокіх абагульненняў у манаграфіі толькі пазначаны. Затое многія арыгінальныя даследаванні калег Яўгена Гарадніцкага, магчыма, будуць распачынацца цытатамі з яго новай кнігі.

### ПРЫКМЕТЫ ІМПРЭСІЯНІСТАЎ

У манаграфіі **«Беларускі імпрэсіянізм»** Таццяна Мацюхіна галоўным чынам звяртаецца да беларускай паэзіі першай паловы XX стагоддзя. Самым імпрэсіяністычным айчынным паэтам апынаецца Максім Багдановіч — менавіта яго творчасці прысвячае найбольшую ўвагу як аўтар манаграфіі, так і даследчыкі, якія раней займаліся гэтай праблемай. Гісторыя ўзнікнення і станаўлення імпрэсіянізму агледжаецца ў першым раздзеле, тут жа можна знайсці і вызначэнне характэрных рыс гэтай мастацкай з'явы.

Самыя каштоўныя старонкі манаграфіі — частка «Паэтыка імпрэсіянізму ў творчасці Максіма Гарэцкага і Кузьмы Чорнага», дзе адзначаюцца адметнасці стылю гэтых арыгінальных празаікаў. Па сутнасці, іншыя часткі работы — таксама якасны літаратуразнаўчы аналіз тэкстаў, выкананы з увагай да сінтаксісу, мастацкіх вобразаў, паэтыкі колераў і гукаў.

Праз стылістычны аналіз Таццяна Мацюхіна выяўляе імпрэсіяністычныя тэндэнцыі ў творчасці З. Бядулі, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, Н. Арсенневай. Праўда, калі ў выдатным тэарэтычным раздзеле даследчыца з улікам меркавання С. Логіша, Э. Кіса ды інш. раскрывае каля дзясятка спецыфічных прыкмет імпрэсіянізму, то на старонках, прысвечаных творчасці В. Жуковіча, І. Багдановіч і Н. Філон, спецыфічна-імпрэсіяністычнага знаходзіцца значна менш...

Літаратуразнаўцы любяць аналізаваць тэксты з мэтай выявіць у іх рысы пэўнага стылю, жанру, мастацкага кірунку. Гэта патрабуе вялікай эрудыцыі і працаздольнасці, а таксама пільнасці да магчымых лагічных памылак. Бо калі супольнасць даследчыкаў пагаджаецца, што $i = a + b + c + d$, з гэтага зусім не вынікае, што $i = a + b$. Невыпадкова стыль вызначаецца як устойлівая цэласнасць (!) вобразнай сістэмы: каб выявіць у творы наяўнасць пэўнай мастацкай тэндэнцыі, неабходна вылучыць не дзве-тры, а пераважную большасць яе характэрных прыкмет. У гэтым сэнсе асобныя старонкі манаграфіі Таццяны Мацюхінай падаюцца непераканаўчымі.

Пры безумоўнай значнасці даследавання стылю варта памятаць, што аналіз паэтыкі можа быць грунтам для цікавых абагульненняў, першай прыступкай да выяўлення асноўных тэндэнцый у культурным і сацыяльным жыцці. Бо вельмі ўмоўныя вызначэнні мастацкіх стыляў патрэбны найперш дзеля таго, каб распавесці пра развіццё мастацтва, выявіць змены ў светапоглядзе прадстаўнікоў розных краін і эпох. Пералік беларускіх творцаў-імпрэсіяністаў дазваляе сцвярджаць, што для савецкай паэзіі імпрэсіяністычныя тэндэнцыі абсалютна не ўласцівыя, а гэта заслугоўвае, прынамсі, сціслага тлумачэння ў даследаванні.

Для багдановічазнаўцаў і спецыялістаў па гісторыі літаратуры манаграфія Таццяны Мацюхінай можа стаць яшчэ адным карысным пунктам у бібліяграфічным спісе. Падкрэслім: чым больш арыгінальную праблему імкнецца вырашыць літаратуразнаўца, тым цікавей «шырокаму чытачу» знаёміцца з яго работай.

Юлія ШПАКОВА

# Вершы пра Гошу

## Рэцэнзія ад зваротнага

**Ёсць людзі, якія заўсёды маюць рацыю. Прынамсі, яны ў гэтым свята ўпэўненыя. Яны ні ў чым не сумняюцца, бо ведаюць, як правільна, а правільна — значыць, добра. Яны даводзяць: калі ёсць дах над галавой, хлеб і стабільны заробак, любы сум — кашчунны. І ўвогуле, няма чаго займацца самакапаннямі. Трэба быць бадзёрым і шчаслівым.**

Гэтым людзям раскрываць кнігу Георгія Барташа «Ботиночки» не тое каб строга забаронена — проста не мае сэнсу. У адказ на вершы, поўныя незадаволенасці светам і сабой, яны скажуць толькі: «Хочаш быць шчаслівым — будзь ім!» А як?..

Менавіта пра іх, філістараў з душою, спакойнай да змярцвення, кажа Георгій Барташ: «Спасибо тем, кто меня не слышит».

Да сябе самога паэт пры гэтым не ставіцца з характэрным прыдыханнем, якое ўзнікае, калі аўтар, расчараваны ў высокіх ідэалах, адкрывае для сябе зваротны бок свету. Гэта як павярнуць тканы дыван тыльным бокам і зразумець, што прыгожы ўзор трымаецца на хаатычных сплячэннях, на абарваных нітках. Паказваючы гэтую стракатую, але зусім не радасную, бо пазбаўленую гармоніі, карцінку, наш гіпатэтычны аўтар міжволі выказвае расчараванне і абуранасць. І разам з тым наракае на лёс, які пасяліў яго ў гэтым свеце, надзяліўшы чуйным сэрцам і вострым зрокам. І, зноў жа, разам з тым не-не ды выдасць замілаванне, што такі ён чуйны.

Дык вось, Георгій Барташ не з таго шэрагу аўтараў. І самазадаволенасць, замілаванне сваім пакутніцтвам — самыя неверагодныя эпітэты ў дачыненні да яго як паэта. У чуйнасці яго, між тым, сумнявацца не даводзіцца. Ён аднолькава тонка адчувае і людзей, і станы прыроды, і сябе самога. Нервовая сістэма яго паэзіі сплеценая якраз з тых самых абарваных нітак, што ствараюць падманлівую гармонію «карціны жыцця». Зварушыцца адна нітка — і ў вачах паэта скажаецца ўвесь узор. Не сумняешся і ў яснасці погляду аўтара, погляду, прыхаванага часам за «ядовитым прищуром».

Мяжа паміж занатоўваннем невясёлых станаў душы (туга, адзінота, разгубленасць, своеасаблівага роду сіроцтва) і звычайным вершаваным ныццём надзвычай тонкая. Такая тонкая, што яе і пераходзіць не трэба. Дастаткова толькі неасцярожна пахіснуцца не ў той бок.

Што ж ратуе Георгія Барташа? Вядома: іронія, самаіронія, сарказм, пакепліванне — і адэкватнасць самаўспрымання. Пра асабістыя трагедыі ён распавядае з прытоеным смехам. Нават калі верш пазбаўлены стылізацыі пад наіўна-простанароднае, пазбаўлены адкрытай самакрытыкі, у якой чуецца не столькі нават крытыка, колькі ўсё той жа смех (маўляў, падзівіцеся, людзі добрыя, як такія ўвогуле жывуць на свеце), вы ўсё адно адчуваеце аўтарскую ўсмешку. Дзе яна? У знарочыстай сур'ёзнасці? Між радкоў? У блазнерстве, да якога аўтар ставіцца з пашанай, разумеючы, наколькі несур'ёзны гэты наш свет з гэтымі нашымі драмамі?.. Так і зноў так. А часам толькі гэтая ўсмешка і застаецца — як прывітанне ад Чэшырскага Ката.

Урэшце, больш за ўсё Георгій Барташ нагадвае Аляксандра Дзюма ў момант, калі той выйшаў з пакоя, дзе мусіў застрэліцца, і прамовіў з усмешкай: «Я страляў — і не патрапіў».

Часам аўтар глядзіць на сябе як бы збоку, і тут зноў выяўляецца яго самаіронія. Прыкладам, «Вершы пра Гошу» («Дом далеко, страдать напрасно / И много гадостных напраслин / На Гошу возвели»). Ці вось гэтае, тым больш шчымліва-кранальнае, што разумееце і ты, і аўтар: многае з прамоўленага — праўда, і сумневы, выказаныя паэтам, не творчае какецтва, але сапраўдны, непадробны боль (галоўны ці душэўны, не такая вялікая розніца):

*А может быть, всё проще и печальней*
*И нет во мне ни прелести, ни тайны*
*Обычный, заурядный дурачок*
*Который неизвестно чего ради*
*Строчит в своей измызганной*
*тетради*
*Нашёптывает строки в кулачок…*




Паказальна, што раздзел, у якім змешчаны гэты верш, называецца «Ещё один Мурьета Хоакин», і назва ўзятая ўсё з таго ж верша. Дарэчы, яна магла б стаць назвай і ўсяго зборніка.

Адкуль жа бярэцца пакутніцкая незадаволенасць? Што не дае спакою гэтаму дарасламу, пануранаму, расчараванаму, іранічнаму падлетку?

Пошук сапраўднага.

Фальш — горшае для яго катаванне. Адсюль і столькі болю ў выяўленні пачуццяў, назіраннях, у падвядзеных высновах пра сябе і свет. Паэт шукае Радзіму — а замест яе

*…Есть столицы, есть народы,*
*храмы, паперти,*
*Позаросшие травой.*
*И в пятнах скатерти,*
*Угощенье, пиво, водка,*
*Посыл к матери...*
*Печь, перины, тараканы,*
*даже бублики.*

*Нету Родины.*

Ён шукае каханне — і час ад часу знаходзіць жанчын, якіх любіць, трывае, баіцца, абагаўляе, да якіх ён пяшчотны ці жорсткі. Але якое б вялікае пачуццё ні ахапіла спакутаванае сэрца, герой Гоша шчыры з сабою: усё скончыцца.

*Я мучитель, я злодей*
*Только в чём я виноват*
*Плачь, девчонка, дева, плачь*
*Я любил тебя когда-то*

ці той жа матыў — на новы лад:

*Сведи с ума, тем сладостней,*
*чем горше,*
*Избавь меня от страха и стыда.*
*Я всё равно тебя однажды брошу —*
*Не знаю с кем, не ведаю когда.*

І гэта не халоднае выхваленне Дона Жуана — усяго толькі гранічная шчырасць. Таму што калі і ёсць нешта горшае за такую вось непрыкаянасць, самоту, якой не пазбавіцца ніякімі сродкамі, акром смерці («А жизни на полслова / Полшага — дальше смерть»), дык гэта пошласць, банальнасць, шумны фарс на папялішчы, хлусня іншым і сабе самому (найбольш востра ў Барташа гэта выяўляецца ў вершах пра каханне). Ціхі вар'ят, самотны інтэлігент (да апошняга азначэння паэт таксама ставіцца іранічна), словам, Гоша паўстае без прыўкрас, як і іншыя героі зборніка, згадаць хоць бы дзеда Мазая, старога хворага чалавека. Ён, дарэчы, сцвярджае ўсё тое ж:

*Ой вы, дети, дети, дети,*
*Ни во что не верьте:*
*Ничего на свете нет*
*Понадёжней смерти.*

А пакуль смерці няма, ёсць пакуты штодзённага існавання з кароткімі перадышкамі ў выглядзе цёплага пачуцця да жанчыны.

Іронія паэта выстаўляецца супраць іроніі лёсу: згодна з ёй мы жывём у свеце матэрыяльным, а матэрыяльнае — тыя ж злашчасныя чаравікі — шчасця не прыносіць. І ў выніку

*два часа ночи*
*сижу ненавижу ботинки*

Калі б існавала прэмія за самую трагікамічную кнігу года, няцяжка здагадацца, хто б яе атрымаў.

**Андрэй ЖБАН**

# На крылах мары — у жыццё

**Школьныя гады — залатыя часіны. Такая думка чырвонай ніткай праходзіць амаль праз усе творы, змешчаныя ў новай кнізе Міколы Чарняўскага «Дзе схаваўся цень удзень?». Выйшла яна ў выдавецтве «Народная асвета» ў серыі «Бібліятэка Асвеціка» і адрасавана дзецям малодшага школьнага ўзросту.**

Кнігу складаюць вершы, скорагаворкі, шарады, казкі. Усім творам уласцівы мяккі, добразычлівы гумар, які, безумоўна, паспрыяе таму, што юныя чытачы з задавальненнем будуць чытаць і перачытваць гэтую кніжку вядомага дзіцячага паэта.

Чарговы раз Мікола Чарняўскі праявіў свой талент: з любоўю да дзяцей, з цёплай усмешкай піша пра сур'ёзнае, павучальнае. Тут вершы пра пачатак новага навучальнага года — адпраўленне ў Краіну Ведаў, пра Ліну-першакласніцу, пра розныя здарэнні, прыгоды і сапраўднае сяброўства, мары хлопчыкаў і дзяўчынак, пра любоў дзяцей да братоў нашых меншых — насельнікаў прыроды. Ёсць у зборніку і сатырычныя творы — у іх аўтар дасціпна, з іроніяй піша пра фанабэрыстага старасту класа, пра дзяўчынку, якая лянуецца займацца фізкультурай, а таксама пра ганарлівага хлапчука Мішку, які доўга не хацеў даць свой новы мяч пагуляць іншым дзецям:

*Мяч ганяў без перадышкі,*
*А сябры глядзелі ўслед.*
*— Стаў ты, Мішка,*
*Важнай шышкай, —*
*Пасміхнуўся дзед-сусед.*

Акрамя выхаваўчых элементаў, у творах утрымліваецца значны пазнавальны змест — нездарма ж новая кніга папоўніла «Бібліятэку Асвеціка»! Вельмі цікавымі атрымаліся, напрыклад, вершы «Хлопчык Ну», «Урок ветлівасці», «Што такое УР», Душа ў палоску», «Буль-буль-суп» і многія іншыя.

З захапленнем пазнаёміцца маленькія чытачы з займальнымі творамі ў раздзелах «Ехала рэха ў вёску Арэхава, альбо Дзе жывуць скорагаворкі», «Разгадай іх, дай ім рады, каб былі шарады рады». Многім прыйдуцца даспадобы практыкаванні ў вынаходлівасці і кемлівасці.

Нікога не пакінуць раўнадушнымі казкі «Як шчупачок быў акрабатам», «Зайчык Мяў і коцік Гаў» ды іншыя, змешчаныя ў кнізе. І яшчэ адна надзвычай важная асаблівасць новага выдання: творы дапаўняюцца прыгожымі малюнкамі сапраўднага майстра сваёй справы — мастака Валянціна Макаранкі.

**Міхась СЛІВА**



# Ад слова «драма»...

...Не адпускае. Адразу не зразумееш — чаму? Што ёсць такога ў гэтым мастацтве, дзеля якога хочацца кідаць усё і бегчы глядзець чарговую прэм'еру ў тэатры. І не, каб гэта накатвала час ад часу, але ж бывае так, што, калі паўзы паміж прэм'ерамі зацягваюцца, ужо чагосьці нестае — і тады ідзеш і глядзіш тое, што ўжо бачыў, але як першы раз: не бывае двух аднолькавых паказаў нават адной і той жа пастаноўкі.

Вось яно! Не трэба тлумачыць, трэба адчуваць: тэатр — гэта адбітак рэальнага жыцця, дзякуючы якому чалавек можа паглядзець на сябе самога збоку. Праз гісторыі, якія прайграюцца акцёрамі, лепш зразумець сябе і іншых, каб потым прааналізаваць абставіны існавання сярод людзей і наогул вызначыць кірункі, у якіх рухацца і рухаць грамадства. Як у яго гэта атрымліваецца: праз мадэль рэчаіснасці, прыдуманую аўтарамі, выклікаць моцныя эмоцыі?.. Усё стваецца літаральна на вачах. Тут, цяпер і канкрэтна для кожнага гледача. У адной прасторы, адным паветрам дыхаюць артысты і публіка. Адлегласць умоўная. І яе наогул можна не адчуваць асабліва, калі героі — нібыта твае родныя і знаёмыя.

Таму якія б часы ні панавалі на сцэне, якія б эпохі ні паўставалі ў дэкарацыях і касцюмах, усё роўна гледачы прымяраюць сцэнічныя сітуацыі на сябе. Углядаюцца ў адбітак у люстэрку, калі ён не вельмі выразны. Заваражона разглядаюць, калі ён да такой ступені пазнавальны, што фактычна рэальны. Тэатр (як мастацтва) заўсёды быў скіраваны на размову са сваім сучаснікам — пра тое, чым ён жыве. Менавіта дзякуючы драматургам, што працавалі ў розных краінах у розныя часы, мы можам лепш разумець эпохі і культуры.

Ад беларускага тэатра найбольш актыўны глядач чакае не толькі пастановак паводле айчыннай класічнай літаратуры (мінулых часоў), але і сучаснай драматургіі — таму што ў ёй і ёсць самы выразны адбітак рэчаіснасці, якая панує навокал і стала настолькі звыклай, што з'явы сумніўныя ці наогул пачварныя ўжо ўспрымаюцца з магчымымі агаворкамі і «разуменнем». Ці, наадварот, у ім прапаноўваюць прыклады, калі можна парадавацца за чалавека, які ў стане перамагаць абставіны і ствараць сваё жыццё сам, быць адказным за будучыню сваю і нашчадкаў.

Але пастаноўкі паводле твораў беларускіх сучасных драматургаў у нашых тэатрах (усіх разам узятых) можна пералічыць па пальцах. Пры тым, што п'есы нараджаюцца — у масцітых і маладых аўтараў. Гэта імёны вядомыя і новыя, адкрываць якія нам усё так жа дапамагаюць іншыя (як у былыя часы, калі беларускіх драматургаў спачатку адзначалі ў іншых рэспубліках ці краінах). Так, кожны аўтар і нават п'еса павінны прыцягнуць «свайго» рэжысёра, які адчуе матэрыял і зможа ўвасобіць яго пераканаўча. Але ставіць маладых вядомых свае знаёмых і праверанных любімых аўтараў — розныя рэчы. І розныя ступені рызыкі: запаўняльнасць залаў ніхто не адмяняў. Таму ўмовы дыктуе рэжысёр.

Тэатр — рэжысёрскае мастацтва, з гэтым немагчыма спрачацца. Драматургія — толькі падстава, каб выказацца на тэму, якая блізкая стваральніку-рэжысёру. А калі не блізкая, то, як кажуць, нічога асабістага... Аўтар п'есы — асоба залежная, калі справа датычыць пастаноўкі. На жаль. Аднак аўтар п'есы — асоба незалежная, калі справа датычыць творчасці. Менавіта ён назірае за людзьмі, прыслухоўваецца да таго, як тыя размаўляюць і пра што. Ён улоўлівае нюансы сэнсаў, якія людзі ўкладваюць у словы, што кідаюць адзін аднаму. Потым словамі стварае вобраз. Праз словы (і кантэкст, у якім яны выкарыстоўваюцца), толькі прачытаўшы п'есу, можна адчуць нерв сучаснасці, ідэі, думкі, з якімі ідзе па жыцці чалавек. П'есы беларускіх драматургаў — гэта рэфлексія на нашу рэчаіснасць, нават на ўзроўні слоў, якія выбіраюць аўтары. Праява тэатра жыцця, дзе таксама ёсць і рэжысёры, і аўтары, і акцёры, якім так хочацца паглядзець на сябе збоку ў момант стварэння свайго галоўнага спектакля, каб ён не ператварыўся ў драму жыцця. Парадавацца. Здзівіцца. Нешта па магчымасці выправіць.

Ёсць беларуская драматургія, скіраваная на сучаснасць — на ўзроўні п'ес, за якімі стаяць аўтары. Здарылася прэм'ера сучаснай п'есы беларускага аўтара — лічыце, прарыў, свята. Але калі гэтым творам прысвячаюць навуковыя даследаванні — значыць, ёсць нешта такое, што дазваляе разглядаць іх як з'яву, якую можна спасцігаць калі не праз тэатр, то праз чытанне, падключыўшы ўласнае ўяўленне. Ці не таму наша маладая тэатральная аўдыторыя так упадабала чыткі п'ес?

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Што сёння ў тэатры?

## Сучасная драматургія: імёны і тэндэнцыі

**Манаграфія прафесара Святланы Ганчаровай-Грабоўскай «Русскоязычная драматургия Беларуси рубежа XX — XXI вв.» — першае літаратуразнаўчае даследаванне абагульняльнага характару, у якім прааналізаваны тэндэнцыі развіцця, жанравая спецыфіка, ідэйна-эстэтычныя пошукі і творчыя стратэгіі найбольш выбітных сучасных рускамоўных драматургаў нашай краіны.**



Сцэна са спектакля «Любоў людзей» Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі паводле п'есы Дзмітрыя Багаслаўскага.

С. Ганчарова-Грабоўская — не толькі доктар філалагічных навук ды прафесар, але і загадчык кафедры рускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Інакш кажучы, і вучоны, і кіраўнік. Па шчырасці сказаць, не шмат я ведаю кіраўнікоў, хто па добрай волі ўзяўся б даследаваць вострую і па-свойму «небяспечную» праблему рускамоўнай драматургіі. Бо вывучэнне найноўшай рускамоўнай літаратуры Беларусі патрабуе не толькі інтэлектуальнага досведу і даследчыцкай руплівасці, але і далікатнасці, паліткарэктнасці, дыпламатычных здольнасцей.

Згадваюцца надзвычай вострыя дыскусіі, датычныя рускамоўнай літаратуры Беларусі, якія вяліся ў навуковых і літаратурна-мастацкіх выданнях гадоў дзесяць таму. Пісьменнікі, крытыкі і літаратуразнаўцы спрачаліся і наконт статуснасці аўтараў (як правамерна іх пазіцыянаваць — рускімі ці беларускімі?), і наконт прысутнасці іх твораў у вучэбных праграмах (у межах якой літаратуры павінны вывучацца гэтыя творы — рускай ці беларускай?), і наконт права рускамоўных літаратараў намінавацца на нацыянальныя літаратурныя прэміі, і яшчэ шмат пра што.

Аднак менавіта тады, калі напал палемікі дасягнуў свайго апагею, прафесар Ганчарова-Грабоўская ініцыявала і зацвердзіла ў БДУ навуковую тэму «Рускамоўная літаратура Беларусі канца XX — пачатку XXI стагоддзяў». Яна сабрала калектыў даследчыкаў і вызначыла праблемна-тэарэтычнае поле дзейнасці. Вынікам той працы зрабілася навуковае выданне (першае ў айчынным літаратуразнаўстве), у якім былі прадстаўлены некалькі дзясяткаў артыкулаў, прысвечаных творчасці рускамоўных літаратараў. Сёння тое выданне запатрабавана і выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў, і школьнымі настаўнікамі, і студэнтамі. Думаецца, гэты факт шмат гаворыць пра С. Ганчарову-Грабоўскую — і як пра вучонага, і як пра асобу.

Кніга «Русскоязычная драматургия Беларуси рубежа XX — XXI вв.» зрабілася лагічным працягам навуковых даследаванняў аўтара. Пільным вывучэннем сцэнічнай літаратуры, тэатральнага мастацтва С. Ганчарова-Грабоўская займаецца на працягу доўгага часу, з-пад яе пяра выйшла чатыры манаграфіі, восем вучэбных дапаможнікаў і больш як дзвесце навуковых артыкулаў, прысвечаных праблемам рускай і беларускай драматургіі XX — XXI стагоддзяў. Новая кніга дэманструе шырокую эрудыцыю аўтара, майстэрства аналітыкі, навуковы досвед.

Манаграфія складаецца з трох раздзелаў, першы з якіх мае пераважна тэарэтычны характар. Аўтар засяродзіла ўвагу на праблематыцы і тэндэнцыях развіцця сучаснай рускамоўнай драматургіі, вызначыла, у рэчышчы якіх мастацкіх напрамкаў працуюць майстры сцэнічнай літаратуры, прааналізавала суадносіны традыцыйнага і наватарскага ў іх творах. Гэтаксама грунтоўна разгледжана жанравая спецыфіка сцэнічных твораў, ахарактарызаваны адметнасці розных жанравых узораў. Увагу да гэтага пытання С. Ганчарова-Грабоўская патлумачыла абгрунтавана і вычарпальна: «Найноўшая рускамоўная драматургія прапануе новыя мадэлі рэальнасці, ёй уласцівы жанравая дыфузнасць, адсутнасць «чыстых жанраў», з'яўленне «тэкстаў», здольнасць «розначытання», павышаная ўвага да маргінальных сітуацый. Камедыя суседнічае з абсурдам, меладрама — з «чорным гумарам», трагікамедыя — з фарсам, гістарычная драма падлягае «рэвізіі» і дэканструкцыі, сацыяльная драма напаўняецца гіпернатуралізмам і трагічнымі інтэнцыямі, набываючы прытчавую структуру».

Магчыма, першы раздзел кнігі, дзе даміную тэарэтычны дыскурс, можа быць складаным для ўспрымання шараговымі чытачамі. Аднак наступныя раздзелы прыдадуцца шырокай аўдыторыі — аматарам тэатральнага мастацтва, прыхільнікам творчасці асобных драматургаў. Бо не сакрэт, што сцэнічнае ўвасабленне драматургічнага твора нярэдка вельмі істотна адрозніваецца ад задумы аўтара (гэта залежыць і ад рэжысёра-пастаноўшчыка, і ад акцёрскага майстэрства выканаўцаў ролі). Знаёмства са спецыяльным навуковым даследаваннем, у якім прааналізаваны эстэтычныя прынцыпы драматургаў, зроблены аргументаваныя інтэрпрэтацыі п'ес, дазволіць аматарам сцэнічнага мастацтва больш аб'ектыўна асэнсаваць сутнасць твораў, супаставіць арыгінальныя тэксты з іх вобразным увасабленнем на тэатральных падмостках.

Другі раздзел кнігі складаецца з васьмі частак, кожная з якіх прысвечана творчай індывідуальнасці пэўнага аўтара. Прафесар Ганчарова-Грабоўская ў чарговы раз засяродзіла ўвагу на творчасці Алены Паповай, Анатоля Дзялендзіка, Святланы Бартохавай, Андрэя Курэйчыка, Мікалая Рудкоўскага, Дзіяны Балыка, Дзмітрыя Багаслаўскага і Паўла Пражко. Пералічаныя аўтары адрозніваюцца выяўленчымі прынцыпамі, тэматычнымі зацікаўленасцямі, агульнай манерай пісьма. У кожнай частцы другога раздзела зроблена агляд творчага шляху драматурга, прааналізавана тэматыка і праблематыка п'ес, вылучаны характэрныя рысы герояў, канфліктаў, вызначаны адметнасці стылю. Так, адносна А. Паповай заўважана: «Аўтар адлюстроўвае «пераходны», памежны перыяд у жыцці грамадства, дэманструючы ўнутраны дыскамфорт асобы, яе адзіноту, неўладкаванасць і незадаволенасць. Драматург адмаўляецца ад вырашэння канфлікту ў рамках п'есы і выносіць яго за рамкі твора, што абумоўлена экзістэнцыяльнай праблематыкай (лёс героя). Драматычныя калізіі выяўляюць маральныя, этычныя, сацыяльна-бытавыя праблемы, якія адлюстроўваюць унутраны канфлікт «Я — Я».

Наконт творчых узораў П. Пражко, якія атрымліваюць неадназначныя ацэнкі гледачоў і крытыкаў, прафесар Ганчарова-Грабоўская адзначае наступнае: «У цэнтры ўвагі гэтага драматурга — маральная мяжа спажывецкай эпохі. Пранізаныя ironіяй і самаіроніяй, яго п'есы ўздымаюць актуальныя праблемы і адлюстроўваюць паэтыку сучаснай «новай драмы», інавацыйнасць якой зводзіцца, з аднаго боку, да эстэтычнага прымітывізму, з другога — да філасофскай абагульненасці. (...) Драматург яўна арыентаваны на авангардызм. Ён імкнецца усталяваць новыя адносіны паміж рэальнай і выдуманай («фіктыўнай») рэчаіснасцю, адыходзячы ад ранейшых канонаў і штампаў, фарміруючы новую тэатральную міфалагему».

С. Ганчарова-Грабоўская з'яўляецца не толькі даследчыкам драматургічнага мастацтва, але і яго прапагандыстам. У пэўнай ступені пра гэта сведчыць трэці раздзел манаграфіі, у які ўвайшлі стэнаграмы творчых сустрэч драматургаў з выкладчыкамі і студэнтамі філалагічнага факультэта БДУ. (Натуральна, сустрэчы адбываліся па асабістай ініцыятыве Святланы Якаўлеўны.) Гэты раздзел, верагодна, прываблівае самую шырокую чытацкую аўдыторыю. Надзвычай цікава даведацца «з першакрыніцы», якімі матывацыямі кіраваліся аўтары пры напісанні твора, як адбываўся творчы працэс, як ацэньваюць драматургі сцэнічныя ўвасабленні ўласных твораў, як рэагуюць на крытыку, чым адрозніваецца сцэнарый тэатральнай пастаноўкі ад кінасцэнарыя...

Новая манаграфія засведчыла высокі прафесіяналізм аўтара, уменне акцэнтаваць праблемныя моманты, чуйнасць да творчай індывідуальнасці мастака.

**Лада АЛЕЙНІК**

Унікальны праект

# Культура. Ад А да Я

**Больш як 12 тысяч слоўнікавых артыкулаў, 3 тысячы ілюстрацый, 6 гадоў працы над праектам. «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» завяршыла выданне шасцітомнай энцыклапедыі «Культура Беларусі».**

Першы том пабачыў свет у 2010 годзе, а шосты, куды ўвайшлі слоўнікавыя артыкулы на літары ад М да Я, — сёлета. У працэсе падрыхтоўкі энцыклапедыі выдавецтва супрацоўнічала з Міністэрствам культуры і Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі, Нацыянальнай бібліятэкай, Беларускім дзяржаўным універсітэтам, Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў, Нацыянальным мастацкім музеем, Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета ды інш.

— Тэматыка энцыклапедыі — культура ва ўсіх яе праявах, — распавядае галоўны рэдактар выдавецтва «БелЭн імя П. Броўкі» Ларыса Языковіч. — У апошні том энцыклапедыі трапіў «куст» пра музыку — музычны тэатр, камедыю. Ёсць тут і артыкулы пра населеныя пункты краіны, але з улікам таго, што галоўная ўвага надаецца культуры. Так, да прыкладу, калі гаворка ідзе пра Нясвіж і Нясвіжскі раён, то толькі некалькімі сказамі апісваецца колькасць насельніцтва, сацыяльнае і эканамічнае жыццё, але даволі падрабязна распавядаецца пра ўстановы адукацыі, бібліятэкі, культурныя цэнтры, мастацкія калектывы, якія маюць званне заслужаных ці народных.

На старонках «Культуры Беларусі» можна прачытаць артыкулы пра ўсе музеі, што працуюць у нашай краіне. Ёсць тут і інфармацыя пра бібліятэкі. Аўтары артыкулаў энцыклапедыі звязваліся непасрэдна з установамі для атрымання інфармацыі пра колькасць чытачоў, дату стварэння, а таксама тое, якую дзейнасць праводзіць бібліятэка.

— Справа ў тым, што сёння бібліятэка стала не толькі месцам, дзе захоўваюцца кнігі, але і сапраўдным цэнтрам культуры, — разважае Ларыса Уладзіміраўна. — Тут працуюць клубы па інтарэсах, ладзяцца сустрэчы і выстаўкі. Ёсць у энцыклапедыі і звесткі пра помнікі архітэктуры: пры распрацоўцы слоўніка рабіўся акцэнт на тыя, што ўключаныя ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны краіны. Вельмі цікавы энцыклапедычны артыкул на тэму народнага дойлідства напісаў вядомы даследчык Сяргей Сергачоў. Не так даўно ў «БелЭн» пабачыла свет яго кніга, прысвечаная гэтай тэме, а ў энцыклапедыі — пэўнага кшталту падсумаванне зместу гэтай вялікай працы.

Пра аўтараў, якія рупіліся над артыкуламі «Культуры Беларусі», варта распавесці асобна. Адзін з іх — доктар мастацтвазнаўства Яўген Сахута. Гэта прадстаўнік старэйшага пакалення даследчыкаў традыцыйнай культуры беларусаў, адметны чалавек, абазнаны ў многіх тэмах, шмат можа распавесці пра кавальства, ганчарства, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Артыкулы пра мастакоў пісала мастацтвазнаўца Галія Фатыхава. Так, толькі ў апошнім томе энцыклапедыі можна знайсці звесткі пра Георгія Паплаўскага, Уладзіміра Пракапцова, Мікалая Селешчука, Усевалада Свентахоўскага, Уладзіміра Стэльмаха, Івана Хруцкага, Марка Шагала, Леаніда Шчамялёва, Васіля Шаранговіча і многіх іншых.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, доктар педагагічных навук Раман Матульскі — таксама аўтар энцыклапедыі. Ён напісаў артыкул пра галоўную кніжніцу краіны.

— Шмат у энцыклапедыі і тэарэтычных, культуралагічных артыкулаў. Над імі працавалі айчынныя культуролагі, якія на высокім філасофскім узроўні вывучаюць, асэнсоўваюць нашу культуру, — зазначае Ларыса Языковіч. — Адзін з аўтараў — Аляксандр Смолік, доктар культуралогіі, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Ён напісаў, да прыкладу, артыкулы «Нацыянальная культура», «Сацыядынаміка культуры», «Сацыялогія культуры». Адметна, што ў энцыклапедыі мы не проста распавядаем пра з'явы культуры, асобныя факты, але і змяшчаем навуковае абгрунтаванне сучасных працэсаў, якія адбываюцца і на тэрыторыі нашай краіны, і ва ўсім свеце.




Фота Кастуся Дробава.

*Ларыса Языковіч прадстаўляе 6-томную энцыклапедыю «Культура Беларусі».*

Ёсць тут звесткі пра архітэктараў, акцёраў, спевакоў оперы, артыстаў балета, кампазітараў. Усіх і не пералічыць! У апошнім томе «Культуры Беларусі» змешчаныя, да прыкладу, артыкулы пра Уладзіміра Мулявіна і ансамбль «Песняры», шмат інфармацыі пра дзеячаў беларускай культуры, пісьменнікаў. У шосты том трапілі звесткі пра Максіма Танка, Пімена Панчанку, Генадзя Пашкова, Яна Скрыгана, Кузьму Чорнага, Івана Чыгрынава, Івана Шамякіна, Алеся Савіцкага, Уладзіміра Саламаху, Янку Саламевіча і многіх іншых.

Цэлы энцыклапедычны «куст», які ўвайшоў у шосты том «Культуры Беларусі», склалі артыкулы пра Полацк і музеі, што сёння працуюць у самым старажытным горадзе нашай краіны і ўваходзяць у Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік. Цікавыя звесткі і пра неглюбскі строй, неглюбскія ручнікі.

— Вельмі важны пласт энцыклапедыі — пра народы, якія жывуць у Беларусі. Яны таксама ўнеслі значны ўклад у развіццё нашай культуры, — лічыць Ларыса Уладзіміраўна. — Ёсць тут звесткі пра палякаў, рускіх, украінцаў, татар, яўрэяў, цыган. Гэта не толькі гісторыя пра тое, як прадстаўнікі гэтых народаў трапілі ў Беларусь, але і тое, як яны развіваюць сваю культуру, а таксама ўдзельнічаюць у жыцці краіны. Адметна, што гэтыя звесткі ўзгадняліся з прадстаўнікамі Апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Значную частку «Культуры Беларусі» склалі і звесткі пра рэлігійныя адносіны на тэрыторыі краіны. Ніхто не будзе аспрэчваць факт, што рэлігія мае важнае значэнне ў развіцці культуры народа. Нашы першаасветнікі, да прыкладу, Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, былі і рэлігійнымі дзеячамі. У шостым томе энцыклапедыі змешчаныя артыкулы пра хрысціянства, праваслаўе, стараабрадніцтва, уніяцтва, Рэфармацыю. Можна тут прачытаць і пра сучасных рэлігійных дзеячаў. Гэтыя артыкулы пісалі рэлігіязнаўцы, гісторыкі.

Пра тое, як стваралася энцыклапедыя «Культура Беларусі», Ларыса Языковіч можа распавядаць бясконца. Гэта была вельмі доўгая і складаная праца, плён якой — шэсць тамоў, здольныя ўпрыгожыць любую бібліятэку.

Адметна, што апошні том гэтай энцыклапедыі можна назваць і своеасаблівым мастком да наступных значных праектаў «БелЭн». Тут змешчаны вялікі артыкул пра Францыска Скарыну. У наступным годзе мы будзем шырока адзначаць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, і ўжо сёлета ў выдавецтве распачалася праца па стварэнні двзюх энцыклапедый, прысвечаных першадрукару. Адна з іх пабачыць свет напрыканцы гэтага года.

— Думаецца, што праца над гэтай энцыклапедыяй стане своеасаблівым штуршком для вывучэння спадчыны Францыска Скарыны на новым узроўні, — разважае Ларыса Языковіч. — У пачатку 1990-х гадоў ужо выходзіла персанальная энцыклапедыя, прысвечаная Скарыну, і першапачаткова думалася, што новая кніга стане проста дапрацаванай версіяй таго выдання, але калі мы сустрэліся з аўтарамі, распрацавалі канцэпцыю, то стала зразумела: гэта будзе абсалютна новы ўнікальны праект.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Дзень пісьменства-2016

# Залаты рог: паміж Дняпром і Друццю

**Да шчодрай на таленты Рагачоўшчыны маюць дачыненне такія славутыя беларускія пісьменнікі, як Міхась Лынькоў, Андрэй Макаёнак, Аляксей Зарыцкі, Алена Васілевіч, Уладзімір Караткевіч і дзясяткі іншых. Тут рабілі першыя крокі ў літаратуру маладыя хлопцы, якім не наканавана было вярнуцца з Вялікай Айчыннай вайны, — Алесь Жаўрук, Мікола Сурначоў, Алег Радыёнаў, Рыгор Лынькоў (Суніца).**

Тут, на рагачоўскай зямлі, нясуць мастацкае слова іх наступнікі. Менавіта яны па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам тагачаснага намесніка дырэктара Рагачоўскай цэнтральнай раённай бібліятэчнай сістэмы Нінэль Падгурскай паклапаціліся пра тое, каб сабраць спадчыну празаікаў, паэтаў, драматургаў, публіцыстаў, якія праславілі наш край, падрыхтаваць да друку і разам з творамі сучасных літаратараў Рагачоўшчыны апублікаваць у літаратурна-мастацкіх альманахах.

Першы з іх называецца «Рагачоўскі розгалас», які пабачыў свет у 1996 годзе (дарэчы, гэта быў першы за ўсю гісторыю горада і раёна альманах). Кніга складаецца з некалькіх раздзелаў: «Спадчына», «Паэзія», «Проза», «Сатыра і гумар», «Маладыя галасы», «Куток для маленькіх», «Мастацтва» (значнае месца ў кнізе адведзена творчасці самадзейных мастакоў, скульптараў, разьбяроў па дрэве — таленавітых людзей Рагачоўшчыны). У 1998 годзе выйшаў другі зборнік твораў літаратараў Рагачоўшчыны «Залаты рог». У ім з'явіліся новыя раздзелы: «Драматургія» і «Публіцыстыка».

Яшчэ адзін альманах — «У вянок Рагачову» (Паэзія. Проза. Публіцыстыка) — чытачы атрымалі ў 2001 годзе. Зборнік быў прысвечаны 55-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

Гэтыя кнігі трапілі ва ўсе бібліятэкі горада і раёна, сталі выдатным падарункам гасцям з розных рэгіёнаў Беларусі і замежжа. Яны выклікаюць вялікую цікавасць і прыносяць карысць вучням, настаўнікам, краязнаўцам.

**Міхась СЛІВА**

# Навінкі кнігавыдання



***Мацяш, Н. І. Выбраныя творы / Ніна Мацяш; [укладанне і каментар Уладзіміра Васілевіча і Галіны Скарыны; прадмова Генадзя Праневіча]. — Мінск: Беларуская навука, 2015. — 604 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-08-1845-4 (у пер.).***

*Васьмідзясяты том выдавецкага праекта «Беларускі кнігазбор» склала спадчына выдатнай паэткі, перакладчыцы Ніны Мацяш. Адметна, што пад вокладкай гэтай кнігі можна пазнаёміцца не толькі з яе выбранымі творамі, ужо добра вядомымі чытачу, але і лістамі да калег і сяброў. Эпісталярый Ніны Мацяш публікуецца ўпершыню. У сваіх лістах паэтка паўстае чулай, шчырай, тут гучыць яе ціхі і прыемны голас, поўны хвалявання і клопату пра блізкіх.*

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Яр, В.** Два лучика света: [рассказы] / Вадим Яр. — Минск: Литературный свет, 2015. — 75 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-6943-30-3.

### Беларуская літаратура

**Анціпенка, Л. М.** Роздумы на адзіноце: вершы / Л. М. Анціпенка. — Магілёў: Інфармацыйнае агенцтва "Магілёўскія ведамасці", 2015. — 111 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-90326-8-4.

**Бруй, У. Д.** Нябесны банк: аповеды з жыцця / Уладзімір Бруй. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2015. — 166 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-524-196-7.

**Віцьбіч, Ю.** Наша спадчына прамаўляе: [нарысы] / Юры Віцьбіч. — Мінск: Харвест, 2015. — 271 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-18-3686-0 (у пер.).

**Гарбачоў, М. М.** Ліхалецце і стварэнне: кніга прозы / Мікола Гарбачоў. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 159 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7119-44-8.

**Гілевіч, Н. С.** У віры быцця: новая кніга эсэістыкі / Ніл Гілевіч. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 182 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7119-37-0.

**Гілевіч, Н. С.** Эпіграмы: 1958–2012 / Ніл Гілевіч. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 111 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7119-40-0.

**Грыцкевіч, А. А.** Рэха вякоў: зборнік перакладаў / Аляксандра Грыцкевіч. — Мінск: Ковчег, 2015. — 74 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7121-47-2.

**Губарава-Крупская, З. В.** Ідзі: паэма / Зінаіда Губарава-Крупская. — Мінск: Ковчег, 2015. — 44 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-61-8.

**Ермалаеў, У. Ф.** Смех у мех, а сум у торбу: лірыка, гумар, сатыра, пародыі / Уладзімір Ермалаеў; [аўтар пасляслоўя: Ліліяна Анцух]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2015. — 149 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-40-9 (у пер.).

**Жырандоля:** літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2008. № 6 / [рэдкалегія: Сяргей Амяльчук (галоўны рэдактар) і інш.]. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 203 с. — Частка тэксту паралельна на нямецкай і беларускай мовах. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — 200 экз. — ISBN 978-985-7119-41-7.

**Зэкаў, А. М.** Параненая памяць: апавяданні, вершы, эсэ / Анатоль Зэкаў. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2015. — 85 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-44-7.

**Караткевіч, У. С.** Збор твораў: у 25 т. / Уладзімір Караткевіч; рэдкалегія: Алесь Бельскі [і інш.; прадмова, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Анатоля Вераб'я]; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Філалагічны факультэт. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — ISBN 978-985-02-1366-2 (у пер.).

Т. 8: Каласы пад сярпом тваім: раман; Зброя: аповесць / рэдактар тома Алесь Бельскі; [падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Валянціны Андрэевай]. — 2015. — 926 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1640-3 (у пер.).

**Колас, Я.** Творы / Якуб Колас; [укладанне і каментары А. І. Шамякінай]; навуковы рэдактар М. І. Мушынскі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 821 с. (Залатая калекцыя беларускай літаратуры: у 50 т. / Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі; рэдкалегія: У. В. Гніламёдаў [і інш.]; т. 8). — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1648-9 (у пер.).

**Корнеў, А. К.** Хмаркі-аблокі радзімай старонкі: вершы, балада, паэма / Алесь Корнеў; мастак Алесь Корнеў. — Мінск: Ковчег, 2015. — 177 с. — 110 экз. — ISBN 978-985-7121-04-5.

**Лапцік, В. В.** Нарач горка плача: навукова-папулярныя нарысы і эсэ / Вячаслаў Лапцік; [фота Міхася Хамца]. — Мінск: Ковчег, 2015. — 211 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-63-2.

**Леановіч, Л. К.** Партызанская мадонна: аповесць, апавяданні / Леанід Левановіч. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2015. — 306 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-45-4.

**Пазнякоў, М. П.** Хлеб для партызанаў: апавяданні, эсэ, аповесць / Міхась Пазнякоў. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2015. — 91 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-46-1.

**Папковіч, У. А.** Як ёсць...: вершы і пераклады розных гадоў / Уладзімір Папковіч. — Мінск: Медысонт, 2015. — 103 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7085-75-0.

**Русецкая, Н.** Каштаны ў кішэнях: вершы / Наталля Русецкая. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 142 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-7119-43-1.

**Узняцца высока:** зборнік вершаў клецкіх паэтаў / [малюнкі: Юлія Качан]. — Мінск: Ковчег, 2015. — 175 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-64-9.

**Хмялеўская, Л. В.** Адлюстраванне: кніга прозы / Людміла Васільеўна Хмялеўская; [аўтар прадмовы Николай Александров]. — Мінск: Ковчег, 2015. — 95 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-30-4.

**Цанунін, У. Я.** Да вогнішча далёкага юнацтва: паэма / Уладзімір Цанунін. — Мінск: Ковчег, 2015. — 66 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-51-9.

**Шульман, Д. Я.** З вялікай літары "Б": кніга прозы / Давід Шульман. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 211 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7119-38-7.

**Якубоўская, С.** Палітра лёсу: зборнік гумарыстычных апавяданняў і вершаў / Святлана Якубоўская. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 83 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7119-45-5.

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Бычок – смоляной бочок:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста / художник Я. В. Кожухова]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 19 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-574-333-1.

**Варнава (Санин Е. Г.).** Первая молитва: [стихотворения: для чтения взрослыми детям] / монах Варнава (Санин); [художник Ольга Крупенкова]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2015. — 23 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-7124-08-4.

**Василиса Премудрая:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук, [Владимир Пустовалов] и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 287 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0927-0 (в пер.).

**Волшебные сказки:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук, Владимир Пустовалов и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 287 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0906-5 (в пер.).

**Гуси-лебеди:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста / художник В. И. Кулинка]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 19 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-574-334-8.

**Детям о Пасхе Христовой:** [литературные произведения для младшего и среднего школьного возраста / составитель Куцаева Наталия Георгиевна; художник Т. Е. Кудина]. — 4-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2015. — 60 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-511-815-3.

**Детям о Святой Троице:** [литературные произведения классических и современных писателей / составитель Велько Александр Владимирович; художник Т. Е. Кудина]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2015. — 53 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-816-0.

**Детям о честности:** [стихи и рассказы классических и современных писателей / составитель Велько Александр Владимирович; художник Г. Л. Иванова]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2015. — 77 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-817-7.

**Добрые сказки:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 288 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0904-1 (в пер.).

**Заколдованная царевна:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 286 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0925-6 (в пер.).

**Козлятки и Волк:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста / художник С. В. Харлан]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 19 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-574-332-4.



***Турбіна, Л. М. Цягнік «Мінск – Масква» = Поезд «Минск – Москва»: стихи / Люба Турбіна. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 90 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 150 экз. — ISBN 978-985-7119-39-4.***

*У вершах Любові Турбіной яднаюцца сны і рэчаіснасць, падарожжы ў прасторы і часе. Адметнасць гэтага выдання ў тым, што яно выйшла ў фармаце білінгва: поруч з аўтарскімі рускамоўнымі тэкстамі змешчаныя іх пераклады на беларускую мову. Незвычайна таксама, што некаторыя вершы маюць некалькі варыянтаў перакладу. Над перастварэннем вершаў Любові Турбіной на беларускую мову працавалі перакладчыкі Рэгіна Рэўтовіч, Людка Сільнова, Галіна Дубянецкая, Мікола Шабовіч, Сяржук Сыс.*

**Мир приключений и фантастики:** [сборник произведений классиков мировой литературы]. — Минск: Беларусь, 2015.

Ч. 2: [для старшего школьного возраста]. — 2015. — 606 с. — Содержание: Дети капитана Гранта: роман / Жюль Верн. — 24000 экз. — ISBN 978-985-01-1130-2 (в пер.).

**Морозко:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста / художник О. В. Ларченко]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 19 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-574-339-3.

**Петушок и бобовое зернышко:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста / художник С. В. Конзалаев]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 15 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-574-331-7.

**Погляди в свое оконце:** времена года в стихах для детей: [для чтения взрослыми детям / составитель Игорь Полевиков; художник София Пискун]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2014. — 34 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-7020-66-9.

**Русские народные сказки** / [художник В. И. Волынец]. — Минск: Харвест, 2015. — 95 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3655-6 (в пер.).

**Секрет счастья:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для детей дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для детей младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук, [Владимир Пустовалов] и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 286 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0926-3 (в пер.).

**Ситников, Ю.** Лес страха: [повесть: для среднего и старшего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2015. — 251 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-570-064-8 (в пер.).

**Удивительные сказки:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук, [Владимир Пустовалов] и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 286 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0907-2 (в пер.).

**Хаврошечка:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. А. Соловей]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 19 с. — 4013 экз. — ISBN 978-985-574-330-0.

**ХВ, радость моя!:** пасхальный сборник для всей семьи / [составитель Игорь Полевиков; иллюстратор Ольга Ионайтис]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2015. — 92 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7020-68-3 (в пер.).

**Чудесное колечко:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 288 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0924-9 (в пер.).

**Чудесные сказки:** [для чтения взрослыми детям (до 4 лет); для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет); для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 286 с. — 2030 экз. — ISBN 978-985-17-0905-8 (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Ласковец, Ю. П.** Штрипачок: сказки / Юлия Ласковец; иллюстрации Кати Михаленко. — Минск: Типография Макарова и К, 2015. — 114 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7080-02-1.

**Медведева, С. М.** Сказки-рассказки бабушки Ланы / С. М. Медведева. — Минск: Ковчег, 2015. — 78 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-54-0.

**Минчукова, Е. В.** Мой маленький гном: [стихи] / Елена Минчукова; [иллюстрации: Е. В. Минчукова]. — Минск: Минар, 2014. — 46 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-90268-7-4.

**Поздняков, М. П.** Ехал петушок с базара: считалки, небылицы, смешинки, скороговорки, загадки: для детей дошкольного и младшего школьного возраста / Михаил Поздняков. — Минск: Народная асвета, 2015. — 39 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-03-2385-9.

**Полякова, А. С.** Большое счастье: стихи для детей / Анна Полякова. — Минск: Ковчег, 2015. — 45 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-24-3.

**Попова, Э. Ю.** Волшебство – оно повсюду: [стихи: детям от 7 лет и старше] / Эльга Попова; [иллюстрации автора]. — Минск: Змицер Колас, 2015. — 59 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6992-64-6.

**Рачевская, Е. А.** Тайны сияющего острова: [повесть: для среднего школьного возраста] / Елена Рачевская. — Минск: Ковчег, 2015. — 226 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-40-3.

**Шевцов, А. Н.** Удивительные приключения котят: сказки: [для младшего школьного возраста] / Алексей Шевцов. — Минск: Белорусский республиканский литературный фонд, 2015. — 96 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6975-29-8.

### Беларуская літаратура

**Беларуская азбука ў малюнках** / [рэдактар В. С. Годкін; ілюстрацыі: А. М. Семянцова]. — Мінск: Годкін В. С., 2014. — 34 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90343-3-6.

**Беларускія народныя казкі:** [для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту / мастак В. І. Валынец]. — Мінск: Харвест, 2015. — 95 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3654-9 (у пер.).

**Губарава-Крупская, З. В.** Казка пра дудара Адама і роднае слова / Зінаіда Губарава-Крупская. — Мінск: Ковчег, 2015. — 52 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-7086-84-9.

**Шэін, А. Г.** Сем камянёў: [раман] / Аляксей Шэін; [мастак Р. М. Сустаў]. — Мінск: Пазітыў-цэнтр, 2015. — 415 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6983-53-8 (у пер.).

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Антропологические сдвиги переломных эпох и их отражение в литературе:** сборник научных статей: в 2 ч. / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: Т. Е. Автухович (гл. ред.) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2014. — 140 экз. — ISBN 978-985-515-808-1.

Ч. 1. — 2014. — 390 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на белорусском, польском и украинском языках. — ISBN 978-985-515-809-8.

**Коленчикова, Н. В.** "Я снова чью-то песню слышу...": Сергей Есенин и бардовская песня: литературоведческое исследование / Нина Коленчикова; [автор предисловия: О. Е. Воронова]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2015. — 337 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-93-2.

**Маслов, Ю. В.** Зарубежная литература. Литература США = Foreign literature. Literature of the USA: практическое пособие для студентов языковых специальностей учреждений высшего образования / Ю. В. Маслов, И. С. Криштоп; Министерство образования Республики Беларусь, Барановичский государственный университет. — Барановичи: БарГУ, 2015. — 147 с. — 180 экз. — I SBN 978-985-498-562-4 (ошибоч.).

**Монич, И. В.** Рабочая тетрадь по русской литературе: 6-й класс: (2-е полугодие): практикум для учащихся учреждений общего среднего образования / И. В. Монич. — 3-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 46 с. — 2513 экз. — ISBN 978-985-574-365-2.

**Неборская, Т. А.** Литературное чтение: рабочая тетрадь: 2-й класс: 2-е полугодие: пособие для учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / Т. А. Неборская, Е. Л. Загурская. — Минск: Пачатковая школа, 2015. — 104 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-565-165-0.

**Тесты для тематического контроля по русской литературе:** 6-й класс: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования / [составитель А. Л. Никитина]. — 6-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 37 с. — 613 экз. — ISBN 978-985-574-329-4.

**Тренажер для развития навыков быстрого чтения:** 3-й класс: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования / [составитель К. А. Суднис-Ермолович]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 47 с. — 3013 экз. — ISBN 978-985-574-318-8.

**Человек горы и солнца:** творческий портрет Ганада Чарказяна: статьи, рецензии, эссе / [редактор И. И. Кононович]. — Минск: Ковчег, 2015. — 411 с. — Часть текста на белорусском языке. — 300 экз. — ISBN 978-985-7121-38-0 (в пер.).

### Беларуская літаратура

**Вечны рух жыцця і заканамернасці творчых пошукаў літаратуры:** матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 26–27 лютага 2015 г.): да 90-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Беларусі акадэміка І. Я. Навуменкі / [рэдкалегія: Манкевіч А. А. і інш.]. — Мінск: Права і эканоміка, 2015. — 502 с. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — 60 экз. — ISBN 978-985-552-416-9.

**Кісліцына, Г. М.** Культурны градыент: ідэі, маніфесты, кірункі беларускай літаратуры на мяжы XX–XXI стагоддзяў / Г. М. Кісліцына; [навуковы рэдактар: Саверчанка І. В.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Філіял "Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы". — Мінск: Права і эканоміка, 2015. — 342 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-552-410-7.

**Уткевіч, В. І.** Ідэя ўкаранёнасці ў мастацкім асэнсаванні беларускай літаратурай канца XIX – пачатку XX стагоддзя / В. І. Уткевіч; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт. — Віцебск: ВДТУ, 2015. — 85 с. — 45 экз. — ISBN 978-985-481-361-5.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Краязнаўства

**Здзітава – Радзіма мілая!** / Здзітаўская сярэдняя школа Бярозаўскага раёна; [пад агульнай рэдакцыяй В. П. Жуковіча, Т. С. Ажажа]. — Мінск: Прапілеі, 2015. — 119 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6329-96-1.

**Тураўшчына:** мінулае, сучаснасць, будучыня / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі, Грамадскае аб'яднанне "Тураўскае навукова-асветніцкае таварыства"; [рэдкалегія: П. Ф. Лысенка (галоўны рэдактар) і інш.]. — Мінск, 2000. — Заснаваны ў 2000 г.

Вып. 7 / [укладальнікі: Лысенка Пётр Фёдаравіч, Каралец Васіль Рыгоравіч, Саскевіч Мікалай Аляксеевіч; навуковы рэдактар П. Ф. Лысенка]. — Пазітыў-цэнтр, 2014. — 365 с. — Частка тэксту на рускай і царкоўнаславянскай мовах. — 150 экз. — ISBN 978-985-6983-41-5.

**Шнейдер, А. А.** Земля над Друтью и Оболянкой: страницы истории / А. Шнейдер. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2015. — 239 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз. — ISBN 978-985-471-782-1.

### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

**Атрашэнка, С. Н.** Радаводная кніга / Сяржук Атрашэнка. — Мінск: Ковчег, 2015. — 249 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-41-0.

**Юрша, В. А.** Ошмянский край / Василий Юрша. — Минск: Змицер Колас, 2015–

Т. 1: Шляхетские роды на Ошмянщине. — 2015. — 417 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6992-63-9 (в пер.).

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Груша, А. И.** Документальная письменность Великого Княжества Литовского (конец XIV – первая треть XVI в.) / А. И. Груша; Национальная академия наук Беларуси, Центральная научная библиотека им. Я. Коласа. — Минск: Беларуская навука, 2015. — 464 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1811-9 (в пер.).

**Іванова, В. С.** Асабістыя архівы Беларусі канца XVIII — пач. XXI ст. / Вольга Іванова; [навуковы рэдактар: М. Ф. Шумейка]. — Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 402 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6992-59-2.

**История и общественно-гуманитарные науки как инструмент цивилизационной войны против Русского мира:** материалы "круглого стола" (Минск, 19 декабря 2014 г.). — Минск: Ковчег, 2014. — 147 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7121-58-8.

**Кладбища трансграничных регионов:** сборник научных статей по некрополистике / Министерство образования Республики Беларусь, Гродненский государственный университет им. Янки Купалы, Даугавпилсский университет; [редколлегия: С. Пивоварчик (ответственный редактор) и др.]. — Минск: Медисонт, 2015. — 145 с. — 170 экз. — ISBN 978-985-7085-74-3.

**Метрыка Вялікага Княства Літоўскага:** кніга № 272 (1576–1579): кніга судовых спраў № 58 (копія канца XVI ст.) / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі; падрыхтаваў А. А. Мяцельскі. — Мінск: Беларуская навука, 2015. — 436 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1817-1 (у пер.).

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Забельникова, О. В.** Всемирная история Нового времени XVI–XVIII вв.: 8-й класс: справочник: для учащихся учреждений общего среднего образования / О. В. Забельникова, Е. Ю. Смирнова. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 266 с. — 2413 экз. — ISBN 978-985-574-304-1.

**Личность в истории:** героическое и трагическое: сборник материалов VI Международной научно-практической конференции, Брест, 22–23 ноября 2013 г.: в 2 ч. / [редколлегия: Е. С. Розенблат (гл. ред.), Е. И. Пашкович, Л. В. Харичкова]. — Брест: БрГУ, 2015. — ISBN 978-985-555-310-7.

Ч. 1. — 2015. — 279 с. — Часть текста на белорусском, польском и украинском языках. — 60 экз. — ISBN 978-985-555-311-4.

**100-летие Первой мировой войны:** материалы республиканской военно-исторической конференции / под общей редакцией А. М. Куксо. — Гомель: БГУТ, 2015. — 248 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-554-392-4 (в пер.).

### Гісторыя зарубежных краін

**Павлов, В. П.** Белорусы в европейском Сопротивлении / В. П. Павлов. — Минск: Беларуская навука, 2015. — 477 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-08-1823-2 (в пер.).

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Зимовец, Э. М.** Марш смерти: последний этап концлагеря Заксенхаузен / Эдуард Зимовец. — Брест: Брестская типография, 2015. — 33 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-524-203-2.

### Гісторыя Беларусі

**Акіньчыц, С.** Залаты век Беларусі / Станіслаў Акіньчыц. — 3-е выд. — Мінск: Юніпак, 2015. — 127 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6802-71-6.

**Бараноўскі, А. В.** Полымя (Беліца): гісторыя маёнтка і вёскі / А. В. Бараноўскі; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава. — Віцебск: ВДУ, 2015. — 39 с. — 60 экз.



***Церашкова, А. А. Англійская мова: слова за словам: вершы / Алена Церашкова; [мастак Вольга Раманюк]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 35 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1662-5.***

*Гэтая кніга стала сапраўдным хітом продажаў. Унікальная задумка Алены Церашковай дазваляе спалучыць беларускія рыфмы з англійскімі словамі. Выданне пабудавана наступным чынам. Спачатку аўтарка знаёміць чытача з англійскім алфавітам, вучыць дзетак правільна называць літары гэтай пакуль чужой і незнаёмай мовы. Затым да кожнай літары прыводзіцца простае двухрадкоўе па-беларуску. Апошнія словы верша ключавыя, яны падаюцца спачатку на беларускай, а потым на англійскай мове. Пры гэтым дзеці могуць прасачыць не толькі як слова пішацца, але і як вымаўляецца. Таксама дзеткі навучацца, як па-англійску назваць членаў сям'і, апісаць прадметы па важных прыкметах.*

# Лясовіцкія вёсны Караткевіча

— Лясовічы? Назва, нібыта недзе ў нас на беларускім Палессі, — выпускнік расійскай філалогіі Уладзімір Караткевіч задумваецца толькі на імгненне.

— Згода. Гатовы ехаць, — кажа ён камісіі.

І вось учорашні студэнт Кіеўскага ўніверсітэта едзе, згодна з размеркаваннем, у вёску Лясовічы Тарашчанскага раёна Кіеўскай вобласці. Размеркаванне, з аднаго боку, удалае (усё ж сталічная вобласць, 120 кіламетраў ад Кіева), а з іншага боку — глыбокая правінцыя, адзін з самых аддаленых раёнаў.

Але яму не ўпершыню вандраваць. Бачыў і Маскву, і Разань, і Аранбург. І на Урале пабываў. Не кажучы ўжо пра родную Беларусь. А Лясовічы — гучыць рамантычна. Мабыць, лясы навокал, як каля Оршы.

Ехаць Валодзі на перакладных, бо аўтобуснага спалучэння з Тарашчай няма… Але і няма лепшага спосабу вывучаць край, як з кузава «палутаркі». Толькі так, у руху, у віры жыцця сярод людзей можна набыць багаты досвед, каб стаць сапраўдным пісьменнікам. Машына грукае на брукоўцы, цёплы вецер б'е ў грудзі, трэпле валасы, свішча ў вушах. Навокал, нібы ў калейдаскопе, змяняюцца краявіды. Вось прамінула, уся ў вербах, рачулка Рось. А вось — акружаныя стромкімі пірамідальнымі таполямі жытнёвыя палі. Трапляюцца й лясы. Хаця тут яны не такія дрымучыя, як беларускія, больш дубовыя, грабавыя, ясянёвыя…

З багажу ў кузаве толькі адна валіза. У ёй — адзенне, падручнікі, сшыткі. Ёсць вершаваныя накіды. Некаторыя яго вершы ўжо апублікаваны. Свае першыя паэтычныя спробы — "Якубу Коласу" і «Тут будзе канал» — даслаў у аршанскую газету, яшчэ калі быў першакурснікам, у 1951 годзе. Ёсць у яго і чарнавы варыянт аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», але над ім яшчэ трэба папрацаваць.

А наогул, ён ужо не можа жыць без літаратуры, без творчасці.



Фота з сямейнага архіва калегі У. Караткевіча па школе Лідзіі Шкарыўскай. 1956 г.



Уладзімір Караткевіч з калегамі — настаўнікамі Лясовіцкай школы. 1956 г.
Выпуск 8 «А» класа Лясовіцкай школы. Уладзімір Караткевіч — чацвёрты справа ў другім шэрагу.

Вось так, а можа, трошкі інакш, ехаў Валодзя Караткевіч у Лясовічы. У накіраванні напісана: настаўнікам рускай мовы і літаратуры. Месца працы — Лясовіцкая сярэдняя школа Тарашчанскага раёна Кіеўскай вобласці. Лясовічы — не «деревня», як пазначана сёння ў расійскай Вікіпедыі, а адно з самых вялікіх сёлаў раёна, а калісьці, пры Хмяльніцкім, — соценнае мястэчка Белацаркоўскага казацкага палка з чатырма цэрквамі і манастырам.

Сустрэлі маладога спецыяліста радасна. Настаўнік з вышэйшай, ды яшчэ ўніверсітэцкай адукацыяй для тагачаснай вёскі — рэдкасць. А вучні наогул ад яго ў захапленні. Энергіі ў новага настаўніка — праз край, гумару — не пазычаць, а пра веды і казаць няма чаго — энцыклапедыя на нагах. Няма патрэбы шукаць лепшага настаўніка для таго, хто прагне ведаў. Адным словам, Караткевіч для тагачасных Лясовіч — з'ява.

Што ўяўляла сабой гэтая вёска ў сярэдзіне 1950-х? Значная па плошчы, каля 2,5 тысячы жыхароў. Дарогі пераважна грунтавыя, хаты — глінабітныя, з саламянымі альбо бляшанымі дахамі. Лясовічы — цэнтр калгаса імя Бажэнкі, які якраз у сярэдзіне 1950-х увабраў у сябе аж 4 калгасы, а неўзабаве яшчэ і арцель «Чырвоны партызан». Вясковая школа збудавана яшчэ земствам, у пачатку стагоддзя. Яна драўляная, старанна абкладзена воўнаю і абшаляваная. Дбалі нашыя продкі пра здароўе і дзяцей, і настаўнікаў.

А пра мясцовыя краявіды лепш распавядае лясовіцкі святар Дзмітрый Лысінскі, які служыў пры мясцовым Багародзічным храме ў сярэдзіне XIX стагоддзя і пакінуў успаміны (ландшафты з таго часу аніколькі не змяніліся):

«Ёсць у Лясовічах месцы дзівосныя, паэтычныя; ёсць краявіды, ад якіх немагчыма адвесці вочы, такія яны прыгожыя і цудоўныя! Лясовічы — гэта вялікі лес, ці, дакладней, разлогі сад, у якім, як вартавыя засады, выглядваюць купкі сялянскіх хат. Прыгожа вясною, у майскі дзень, хадзіць лясовіцкімі далінамі, добра стаяць на тых пагорках, упрыгожаных карункамі кустоў і дрэў, з духмяным паветрам; так і адчуваеш, што ўбіраеш у сябе нейкі гаючы бальзам! У гэтай паэтычнай мясцовасці не занудзіцца чалавек з найвышэйшымі пачуццямі…»

Заўважым, што герой нашага расповеду — 25-гадовы Уладзімір Караткевіч — не нудзіўся сярод лясовіцкіх вёснаў, а мясцовая прырода натхняла яго на творчасць. Дый школьныя абавязкі не давалі падстаў для нуды. Класы на той час былі шматлікімі, а школа нагадвала мурашнік. Калі дадаць да гэтага кіпучую энергію маладога настаўніка і аб'ём школьнай працы — гурткі, вечары, экскурсіі, — дык зусім не застаецца часу.

Не трэба адкідваць Валодзевага захаплення гісторыяй, археалогіяй. Лясовічы былі для яго шырокім полем дзейнасці, бо вёска старажытная, багатая на мінуўшчыну. Калісь, напрыканцы XVI стагоддзя, яе заснаваў баярын Лясевіч, ад чаго і ўзнікла назва — Лясовічы. Тут стаялі замак, цэрквы, манастыр. А да гэтага было паселішча часоў Кіеўскай Русі, валы якога зберагліся да сёння. А яшчэ раней было паселішча скіфскай эпохі. І далей — у глыб стагоддзяў…

Такім чынам, малады Караткевіч пры жаданні мог знайсці для сябе шмат карысных і змястоўных заняткаў. Увесну — вандроўкі з дзецьмі, восенню і зімой — кнігі, паэзія і, зразумела ж, педагагічная дзейнасць.

Урокі Уладзіміра Сямёнавіча яго вучні згадваюць і сёння. Ён з'яўляўся ў класе ў нязменным вельветавым пінжачку, з непаслухмянымі пасмамі валасоў над высокім ілбом, з усмешкай, якую не пераблытаеш ні з якой іншай. Вочы яго выпраменьвалі дзіўны рамантызм. Здавалася, што ён глядзіць не на школьны падворак, а ў нейкі казачны далёкі свет. Размаўляў багатай мастацкай мовай, уплятаючы ў расповед паэтычныя радкі.

Часам быў задуменны. Тады на пераноссе клаліся дзве глыбокія вертыкальныя складкі. Здавалася, што настаўнік знаходзіўся ў думках недзе далёка. Аднак гэта трывала толькі нейкае імгненне — і вось на яго твары зноў квітнее шырокая ўсмешка, і праца ў класе працягваецца.

Тэарэтычныя ўніверсітэцкія здабыткі Караткевіча добра спалучаюцца з валоданнем размоўнай рускай мовай. Акрамя гэтага, ён можа аналізаваць яе на ўзроўні дыялектаў, бо бываў як у сталіцы СССР, так на Урале і ў Сібіры. Дасканала ведаў родную беларускую і някепска — украінскую. Дарэчы, вучыцца ў Кіеў Уладзімір паехаў дзеля высокага ўзроўню тутэйшага прафесарска-выкладчыцкага складу. Адным словам, лясовіцкім хлопчыкам і дзяўчынкам з настаўнікам пашчасціла. Гэта яны зразумеюць праз гады.

— Уладзімір Сямёнавіч быў вялікім жартаўніком і завадатарам, — распавядае яго колішні вучань, у мінулым — загадчык лясовіцкай пасекі (адна з самых вялікіх ва Украіне таго часу) Іван Дабравольскі. — Ён любіў наладзіць рознага кшталту розыгрышы. Памятаю адзін школьны выпуск. Бацькі, хаця і жылі вельмі небагата, вырашылі на выпускны трохі папесціць дзяцей. Да стала на дэсерт набылі цэлы тэрмас марожанага (на той час марожанае прадавалі ў вялікіх металічных цыліндрычных тэрмасах з сухім лёдам). Пакуль ішла ўрачыстая частка і тосты, Уладзімір Сямёнавіч разам з некалькімі старшакласнікамі выкралі купленае марожанае і, уладкаваўшыся на пагорку, з'елі. Некаму, можа, і перапала б за такі ўчынак ад дырэктара ды бацькоў, але не Караткевічу, бо быў ён усеагульным любімцам.

Калега Караткевіча, настаўніца хіміі Лідзія Шкарыўская, распавядала, што Уладзімір Сямёнавіч быў таварыскім і ўважлівым да настаўнікаў. На Новы год, прыкладам, мог напісаць на кожнага настаўніка гумарыстычную эпіграму, дадаўшы ўласнаручны малюнак-шарж. Такое мастацка-паэтычнае вітанне ад Караткевіча доўгі час зберагалася ў сям'і Шкарыўскіх. На ім была намалявана маладая настаўніца сярод прабірак і колбаў.

Ці пашанцавала самому Уладзіміру Сямёнавічу з калегамі? Пэўна, так. Дырэктар школы Сяргей Лешчанка, сын земскага паштальёна, быў адукаванай і культурнай асобай, прыхільнікам дэмакратычных прынцыпаў. Ён здолеў згуртаваць настаўнікаў у адну дружную сям'ю. Настаўнік фізкультуры і ваеннай падрыхтоўкі Аляксандр Нечыпарэнка — франтавік, партызан, інвалід вайны — вынайшаў уласную методыку мануальнай тэрапіі і стаў знакамітым на ўсю акругу кастаправам. Ну а маладыя настаўніцы, якія раіліся вакол Уладзіміра, магчыма, натхнялі яго на паэзію…

Так, у кругаверці школьных будняў, прамільгнулі два гады. Па вялікім рахунку, Караткевіч ужо даўно вырас з Лясовіч, як вырастае падлетак з кароткіх штаноў. Было з усяго відно, што ён — птах найвышэйшага палёту. Дарэчы, падчас працы ў Лясовічах Уладзімір Сямёнавіч працаваў над кандыдацкай дысертацыяй, якую, на жаль, так і не завяршыў.

Нам невядома, з якімі думкамі вяртаўся ў родныя мясціны малады настаўнік пасля лясовіцкага перыяду жыцця. Хацелася б думаць, што пражыў гэтыя гады не марна, не шкадаваў пра праведзены тут час. А што пакінуў у Лясовічах добрую памяць пра сябе — факт. Так, у 2012 годзе па ініцыятыве і матэрыяльнай падтрымцы мясцовага прадпрымальніка Міколы Грыцэнкі на будынку школы, дзе працаваў Уладзімір Караткевіч, усталявалі мемарыяльную дошку. Да ўрачыстасцей далучыўся сельскі Савет, раённы аддзел культуры, сельская бібліятэка і, зразумела ж, школа. Многа хто з сённяшніх вучняў упершыню пачуў імя У. Караткевіча, але яны з цікавасцю слухалі словы пра выдатнага пісьменніка ад яго колішніх вучняў. На дошцы Уладзімір Караткевіч малады і ўсмешлівы. Менавіта такі, як 60 гадоў таму.

**Леанід ЛАШЧАНКА, краязнавец.**
**Тарашча, Кіеўская вобласць.**

**Пераклад з украінскай Валянціны Лебедзевай**

## Штрыхі



# «Як я ехаў да яе…»

Новы навучальны год у дзявятым класе нашай полацкай школы пачаўся з істотных змен. З трох ранейшых класаў застаўся толькі адзін. Так я апынуўся ў адным класе са сваімі сябрамі Касіўсам і Дзядзькам Томам. Такія мянушкі мы прыдумалі сабе самі, сабраўшыся аднойчы пасля ўрокаў.

Хлопцы захапляліся маляваннем, хадзілі ў мастацкую студыю, я любіў літаратуру і ўпотай пісваў нешта накшталт вершаў. А яшчэ мы любілі аднолькавую музыку — безумоўна, Бітлоў, Чэслава Немэна, Марылю Радовіч, польскія гурты «Но То Цо», «Чырвоныя гітары», «Скальды»… У Касіўса быў рэдкі тады і недаступны для нас магнітафон «Айдас», і мы часта слухалі перапісаныя ім з прыёмніка і пласцінак любімыя запісы.

Хлопцы нават прапанавалі стварыць разам вакальна-інструментальны ансамбль, і хоць я не ўмеў іграць на музычных інструментах, сказалі, што буду ўдарнікам. Уласна кажучы, і інструментаў не было. Дзядзька Том і Касіўс, між тым, збіраліся вырабіць электрагітары самастойна, а барабаны купіць у музычнай краме. «Спяваць, я думаю, трэба па-беларуску, — прапанаваў Дзядзька Том, — і назву давайце прыдумаем беларускую, напрыклад, «Йшлі дахаты» ці яшчэ як».

Вядома, нічога з нашай задумы не атрымалася. Ды вось аднойчы мы даведаліся, што ў суседнім Наваполацку ў Палацы культуры нафтавікоў будзе выступаць рок-гурт «Лявоны».

Калі прыехалі да Палаца, убачылі, што ў касах білетаў няма. Раптам знаёмы хлопец сказаў, што ведае, як можна трапіць на канцэрт. Мы сунуліся за ім. З чорнага хода па пажарнай лесвіцы ўдалося забрацца да самых каласнікоў над сцэнай. Такім чынам мы маглі глядзець увесь канцэрт зверху і бачыць артыстаў вельмі блізка. Уражанне незабыўнае. Вусатыя, у прыгожых строях музыканты спявалі і Бітлоў, і — раптам — свае кампазіцыі па-беларуску.

І зараз гучыць у вушах голас лідара гурта — тыповага на выгляд беларускага шляхцюка: «як я ехаў да яе, брычка на рысорах, прыехаў ад яе — хата на падпорах»…

З таго часу ў нас з'явіўся новы кумір — Уладзімір Мулявін. Праз некалькі гадоў Мулявін з сябрамі (а яны ўжо сталі «Песнярамі») прыехаў на канцэрт у Полацк. Слава любімых артыстаў ужо разышлася далёка па ўсім Савецкім Саюзе. Многія мае аднагодкі нават адгадавалі вусы «пад Мулявіна». Я, не паступіўшы першы год пасля школы ў ВНУ, адпрацаваў некалькі месяцаў грузчыкам на заводзе, нечакана трапіў на працу карэктарам у мясцовую газету і ўжо мог прапанаваць рэдактару свой матэрыял пра маючы адбыцца канцэрт.

Рэдактар паставіўся да прапановы досыць скептычна, але ўсё ж пагадзіўся. І вось задоўга да пачатку канцэрта я, паказаўшы на вахце Дома афіцэраў рэдакцыйнае пасведчанне, дзяжурыў каля грымёрак, каб убачыцца і пагаварыць з самім Мулявіным.

Артыст сустрэў мяне нечакана прыхільна і ветліва. Ён быў і падобны да свайго адлюстравання на афішах і канцэртнае аблічча, і не зусім — не гаварыў пабеларуску (я тады яшчэ не ведаў, што ён прыехаў з Расіі), размаўляў ціха і павольна. Урэшце (о, шчасце!) ён запрасіў мяне паглядзець канцэрт за сцэнай. Тыя шчаслівыя амаль тры гадзіны я, відаць, не забуду ніколі. Усё, што адбывалася вакол, было падобна да нейкага цуду. Я чуў самі песні, гарачыя воплескі, кароткія рэплікі і каментарыі Мулявіна за сцэнай. Скажу, што ён быў ужо не ціхі, ветлівы сураразмоўца, а жорсткі і гарачы кіраўнік. На ходу рабіў заўвагі, прыспешваў, хваляваўся.

Пасля таго канцэрта я падышоў да Мулявіна толькі аднойчы. Зноў у Полацку. Ён пазнаў мяне, сказаў нават, што дасланую мною нататку размясцій на дошцы ў філармоніі, і папрасіў пазнаёміць яго з полацкім кампазітарам Мікалаем Пятрэнкам, песню якога «Ручнікі» яны ўключылі ў свой рэпертуар. І гэтая сустрэча адбылася, пра што Мікалай Макаравіч заўсёды ўзгадваў з цеплынёй і хваляваннем.

Сёння, калі Мулявіна няма, калі так не хапае яго творчага імпэту, яго павагі і любові да беларускай народнай песні, так хочацца часам паставіць на прайгравальнік даўно набытую пласцінку і ў чарговы раз пачуць яго «Як яе ехаў да яе» ды ўзгадаць любімага артыста, нібы далёкую шчаслівую маладосць.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Легенды маёй краіны

**«Усё жыццё мяне прыцягвала мінулае, але зараз мяне зацікавіла будучыня, год недзе праз дзвесце. Як людзі будуць жыць у ёй? Ці могуць у ёй захавацца беларусы, якія ў большасці сваёй не ведаюць сваёй жа мовы, гісторыі сваёй краіны і якіх суседзі — рускія і палякі — заўсёды валаклі ў свае дзяржавы?» Гэта быў клопат пісьменніка Кастуся Тарасава.**

Калі я пачынала рыхтаваць гэты матэрыял, задумалася, а ці правільна пісаць пра чалавека, пра якога літаральна дзве пятніцы таму я не ведала нічога. Ці маю я на гэта права? Але так склалася, што часцяком мы зусім не заўважаем таго, што знаходзіцца побач. Шукаем штосьці новае ў максімальнай аддаленасці ад сапраўднага месцазнаходжання. Але ж, здавалася б, спачатку варта было б азірнуцца вакол і зацікавіцца тым месцам, дзе жывём. Магчыма, першапачатковы корань праблемы — у базавай інфантыльнасці пакалення, якое я прадстаўляю. Бо, як ні сумна, мы з нашмат большым энтузіязмам цікавімся іншамоўнай літаратурай, і няхай гэта проза, паэзія ці драматургія. Нас прымушаюць вучыць гісторыю, мы не адзін раз здаём іспыты па гісторыі нашай краіны і ў школе, і ва ўніверсітэце, але ўсё адно яе не ведаем. І вось у адну з пятніц здарылася магчымасць апынуцца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча на вечарыне памяці Канстанціна Тарасава, дзе сабраліся людзі, якія ведалі яго асабіста. Тыя, каму было што распавесці, што ўзгадаць, чым падзяліцца. Гэта было маё адкрыццё чалавека, пісьменніка, па-новаму стала бачыцца краіна, пра якую ён пісаў.

Творы Кастуся Тарасава пераважна звязаныя з мінулым Беларусі, сюжэты — з драматычнымі фактамі нашай гісторыі. Як ні дзіўна, родная мова была руская, але ён вывучыў беларускую, якую стаў выкарыстоўваць не толькі як ужытковую — пачаў пісаць на ёй. І многія аповесці, напісаныя па-руску, пазней ён пераклаў на беларускую мову.

— Імя Кастуся Тарасава ў беларускай літаратуры заўжды стаяла побач з імем Уладзіміра Караткевіча. Цікава, што гістарычныя творы гэтых пісьменнікаў цудоўна дапаўняюць адзін аднаго. У той час, калі Караткевіч уваскрашаў атмасферу і каларыт мінулага, Тарасаў надзяляў другім жыццём рэальных гістарычных асоб. Канстанцін Тарасаў не толькі неверагодна глыбока ведаў, але яшчэ і адчуваў гісторыю: і яе ўнутраны свет, і таямнічыя рухі чалавечай душы, і ўмеў паказаць яе ў сапраўдным баявым абліччы. Напрыклад, раман «Пагоня на Грунвальд» прысвечаны барацьбе нашых продкаў з рыцарамі Тэўтонскага ордэна, — узгадаў Уладзімір Сіўчыкаў, пісьменнік, перакладчык.

У фае музея, тут жа, можна было пабачыць серыю работ мастака Алеся Квяткоўскага, прысвечаную менавіта гэтай кнізе Канстанціна Тарасава. Тут, у «Пагоні», можна ўбачыць і самога пісьменніка Канстанціна Тарасава, і яго сяброў-сучаснікаў, і нават унука мастака. У кожнага чалавека пра свайго сябра, прыяцеля, знаёмага ёсць самае першае, самае яркае ўражанне. Тое, што жыве ў памяці бясконца доўга. Не факт, што гэты ўспамін — самым дакладным, але яркім — абавязкова.



— Я памятаю Касуся хлапчуком у гіпсе. Як гэта здарылася? Аднойчы ён ішоў па вуліцы і ўбачыў бліскучую гайку. Натуральна, у яго спрацаваў рэфлекс хлапчука-падлетка гайку падфутболіць. Ён зрабіў гэта добра — як усё, што рабіў цягам свайго жыцця. Такі ён быў чалавек. А гайка апынулася штыром, убітым у зямлю. Было лета, абутак адпаведны, ён моцна параніў нагу і хадзіў пасля ў гіпсе… — распавядае сябар Віталь Савіч.

— Канечне, заўжды цяжка казаць пра сяброў, якія ўжо пакінулі нас. З Канстанцінам прайшла мая палымяная маладосць. Ён быў чалавекам, які прайшоў інтэлектуальную школу пасляваеннага Мінска, калі людзі проста збіраліся і чыталі вершы. Таму што цяпер, калі мы сытыя і ўсім задаволеныя, калі каму сказаць, што хтосьці проста чытае вершы Блока, яго інакш як вар'ятам і не назавеш — успамінае пісьменнік Вітаўт Чаропка.

— Што ён чытаў? Я не памятаю. Успамінаецца толькі, як аднойчы ён узгадаў, што чытае «Роб Роя» Вальтэра Скота. Тады ж мы захапляліся адыёзнай паэмай Горкага «Дзяўчына і смерць». Вось такія былі густы — згадаў Віталь Савіч.

У шаснаццацігадовым узросце Тарасаву давялося пазнаёміцца з мінскім філосафам Кімам Хадзеевым. У доме Хадзеева збіраліся творчыя маладыя людзі. Не адно дзесяці-годдзе яго дом з'яўляўся ў пэўным сэнсе цэнтрам мінскага андэграўнду. Як асоба неардынарная, Кім уплываў на юнага Тарасава.

Да таго, як перайсці на літаратурную працу, Канстанцін Тарасаў паспеў папрацаваць слесарам, з'ездзіць у геалагічна-разведвальную экспедыцыю, падарожнічаў па СССР, скончыўшы ўніверсітэт, працаваў майстрам шкловарэння на заводзе «Нёман» у Віцебску, пасля тэхнолагам на віцебскім заводзе «Маналіт». І пераход да літаратуры для самога Тарасава быў натуральным і адзіна жаданым.

Акрамя пісьменніцкай творчасці Кастусь Тарасаў працягваў працаваць рэдактарам і журналістам. Быў літаратурным супрацоўнікам часопіса «Нёман», сябрам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм», уласным карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва», намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва «Аракул», удзельнікам рэдкалегіі мінскага часопіса «Родник», нават стварыў уласнае выдавецтва «Лекцыя», якім кіраваў да 2002 года.

— Быў выпадак, ён выдаў сваю кнігу «Залатая горка», ды складана ішло з продажам. І дарычаў кнігу прадаваць шматлікім сябрам. І вось ужо я даў пачак гэтых кніг на захаванне аднаму свайму сябру. А калі прыйшоў час разлічвацца, аказалася, што ў кватэру, дзе ляжалі кнігі, залезлі злодзеі і забралі менавіта той пачак кніг, на што Канстанцін пасля адказаў, маўляў, раз скралі, значыць, добрае, — адзначае сябар Алесь Дудар.

— Калі ён пачаў пісаць кнігу «Памяць пра легенды», прыйшоў у той час яшчэ ў Ленінскую бібліятэку. Ён быў першым на той момант чалавекам, які ўзняў гэтую тэму. Быў першым, хто не пабаяўся гэта публікаваць. Гэта была першая кніга, якую можна назваць гістарычным дэтэктывам, — кажа Вітаўт Чаропка.

— Хочацца завастрыць увагу на тым, што Канстанцін Тарасаў недаацэнены, недадрукаваны, недапапулярызаваны аўтар. Я думаю, што ў хуткім часе гэта ўсё будзе кампенсавацца, — лічыць пісьменнік Уладзімір Сіўчыкаў.

Я ўпэўненая, што так будзе: гэта легенды нашай краіны.

**Гоя СЕМІРЭНКА**

## На паліцы

# Лучынскія бываліцы

Унікальнае выданне «Сто гісторый пра Лучын» пабачыла свет напрыканцы 2015 года ў Творчай майстэрні «АРГА-ГРАФІК» (г. Мінск). У межах праекта па стварэнні эфектыўных умоў культурных і інфармацыйных паслуг для сельскага насельніцтва «Свет інфармацыі, культуры і творчасці — для ўсіх». Кнігу падрыхтаваў аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Рагачоўскага райвыканкама.

Аўтар — Соф'я Кусянкова, жыхарка аграгарадка Лучын. Як адзначае сама Соф'я Парфір'еўна, яе творы — кароткія расповеды, замалёўкі з жыцця вёскі з пачатку мінулага стагоддзя, са спасылкамі на даўніну як на пэўныя вытокі. А калі ўлічыць, што ўспаміны — гэта не толькі тое, што чалавек бачыў і памятае са свайго жыцця, але і тое, што чуў і запомніў з размоў людзей папярэдніх пакаленняў, то згадкі могуць ахопліваць сто і болей гадоў.

Замалёўкі Соф'і Кусянковай напісаныя з добразычлівым народным гумарам, з любоўю да аднавяскоўцаў і родных мясцін. У выданні выкарыстаны таксама матэрыялы кнігі «Памяць. Рагачоўскі раён», «Кнігі Народнай славы вёскі Лучын», слоўнікі беларускай мовы, выданне Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі «Беларуская дыялекталогія» (выпуск № 2 за 2012 год і выпуск № 4 за 2014 год), а таксама ўспаміны маці аўтаркі — Марфы Калінічны Кусянковай, 1913 года нараджэння, жыхарак вёскі Лучын П. А. Кузняцовай (1922 года нараджэння), С. П. Борыкавай (1931 года нараджэння).

Кніга складаецца з двух вялікіх раздзелаў: «Лучын — на скрыжаванні часоў і тэрыторый» і «Лучынскія бываліцы». Спачатку даецца гістарычная даведка пра населены пункт, першая згадка пра яго ў летапісах — 1136 год. Расказваецца пра мясцовую царкву, школу, вераванні, традыцыі, выхаванне, узаемаадносіны, звычкі, ёсць звесткі пра мясцовыя гаспадаркі, пра магутны Днепр, якія працякае тут. Вялікая ўвага надаецца тапонімам, маўленню, слоўнікам, мянушкам, прозвішчам.

Другі раздзел — уласная творчасць Соф'і Кусянковай. Гэта дзясяткі цікавых, дасціпных, жартаўлівых і сур'ёзных аповедаў пра лучынцаў, іх жыццё, мары, памкненні. Пачнеш чытаць — не адарвешся!

Адметна, што выданне ілюстравана яркімі, каларытнымі фотаздымкамі, зробленымі Соф'яй Кусянковай у розныя поры года ў ваколіцах роднай вёскі.

**Міхась СЛІВА**

Арт-агляд

# Іронія па-таранцінаўску

**Выставачная прастора можа лёгка ператварыцца ў кватэру з мноствам памяшканняў. Памятаеце іранічны шэдэўр «Чатыры пакоі» Квенціна Таранціна? Наведвальнікі выстаўкі Ганны Сілівончык і Васіля Пешкуна «Таемны пакой», што праходзіць у Цэнтры сучасных мастацтваў, ужо адчулі сябе яго героямі.**



Ганна Сілівончык «Рыцары майго сэрца». 2015 г.

Кухня з пыльнымі талеркамі і лыжкамі, сумным чайнікам і драпежнымі прусакамі, спальня, дзе насупраць ложка і раскіданых у парыве запалу пёраў — смелыя і забаўныя фотаздымкі, дзіцячы пакой з паветранымі шарамі і лялькамі, з тулава якіх вырастаюць дрэвы… Карціны мастакоў суседнічаюць з арт-аб'ектамі, а звычайныя прадметы набываюць постмадэрновае гучанне. У аранжарэі проста з падлогі вырастае яблычнае дрэва, а па канапе раскіданыя... вочы. Чалавечыя. Насупраць тэлевізара з подпісам «Сапраўднае жыццё». Не палохайцеся — гэта толькі іранічны хэнд-мэйд.

Стылі ў Ганны Сілівончык і Васіля Пешкуна вельмі розныя, але на сумесным вернісажы яны выглядаюць гарманічна. Ганна аддае перавагу метафарам і казачнасці. З яе карцін глядзіць прынцэса вышынёй з вежу, гіганцкі кубак-вадаём з чалавечым тварам, мужчына, што лётае над дамамі ў аблоках на звязцы паветраных шарыкаў…

Васіль Пяшкун, наадварот, майстар рэалізму, сакавітых сонечных пейзажаў. У яго нават зімовы вечар, які апускаецца на сціплую вёсачку, выглядае святочна і ярка. А ёсць яшчэ майская раніца, лістападаўскі дзень у скверыку каля опернага тэатра…

Па словах мастакоў, таемны пакой — гэта куток, дзе кожны можа застацца сам-насам са сваімі думкамі — ці то змрочная камора перажыванняў і страхаў, ці то крыніца жыццёвага гумару і ўспамінаў. А можа, выхад у іншую рэальнасць?

# Думкі на паверхні



Анатоль Бяляўскі «Хмара».

Дзе пралягае рыса паміж рэальнасцю і фантазіяй? А можа, яны так цесна сплецены, што і не разабраць — як на карцінах Анатоля Бяляўскага, чыя выстаўка адкрылася ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Сціпла, але з густам — тут усяго 14 работ. Затое станковы жывапіс прадстаўлены адразу ў трох жанрах.

У Анатоля Бяляўскага шмат выяваў воднай паверхні як сімвала жыцця ў яго першародным увасабленні. Вада, нібы паненка, што хутка мяняе сукенкі, паўстае ў розных абліччах: зеляњава-шэрай вакол берага возера, у зліцці з небам уздоўж Нямігі ў адвячоркавы час, акружанай пухнатымі ад снегу галінкамі...

А шматлікім краявідам мастака пазайздросцілі б нават галівудскія майстры спецэфектаў — адна толькі карціна «Хмара» збівае з ног выбухам драматычнага змешвання фарбаў і святлаценяў.

Калі ж мастак прапануе нацюрморт, то абавязкова стыльны — не проста грушы і яблыкі, а трубкі, як у Шэрлака Холмса, старадаўнія рэвальверы і пішучыя пёры. У адной з самых моцных работ пад назвай «Дыялог» Анатоль Бяляўскі разважае пра чалавека, які апынуўся са сваімі думкамі ў адзіноце. Нядрэнная нагода падумаць пра тое, як мала часу мы ўдзяляем прыгажосці навакольнага свету… і адзін аднаму.

# Жаночы сюррэалізм?



Алена Шлегель «Рукадзельніца». 2011 г.

Эстэтычны ідэалізм... Ці чулі вы пра такі стыль? Мастачка Алена Шлегель прапануе пазнаёміцца з ім на выстаўцы «Сады Семіраміды», што працуе ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў Беларусі.

На яе карцінах — сапраўдныя музы. Яны валадараць на кухні, апранутыя ў прыгожыя фартухі, а праз хвіліну гуляюць па Эдэмскім садзе ці лунаюць у снах, ткуць цудоўныя палотны, пераўвасабляюцца ў русалак і скачуць на аднарогах. Экспазіцыя нагадвае мастацкае ўвасабленне знакамітай кнігі «Тая, што бяжыць з ваўкамі. Жаночы архетып у міфах і паданнях» Кларысы Эстэс. А з іншага боку — аўтарскі сюррэалізм. Кожная карціна нібы калаж, дзе сумяшчаюцца водгукі з міфалогіі, фальклору і гісторыі розных эпох і краін («Юдзіф», «Сны Саламона»), сімвалы і знакі, тэатралізаваныя гульні і містычныя матывы. Вернісаж — плён 15-гадовай працы мастачкі і ўключае работы з некалькіх серый — «Этнаграфія», «Міфалогія», «Алфавіт», «Рабро Адама», «Медальёны». Маленькі рай — здаецца, тое, што хацела ўвасобіць творца, злучыўшы будзённасць існага і казачнасць неверагоднага.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Поўная гармонія

**Няўжо дзеці і моладзь зусім не слухаюць (а тым больш не іграюць) народныя мелодыі? Пытанне спрэчнае. II Адкрыты фестываль-конкурс беларускай музыкі «Дзяржынскі куфэрак-2015», што прайшоў напрыканцы года, сабраў гэтым разам не пачынаючых піяністаў, а юных майстроў валодання баянам і акардэонам. Выходзіць, нікуды не падзеліся прыхільнікі той музыкі, што ідзе ад вытокаў, а не насаджаецца масмедыя.**



Гран-пры конкурсу — прэстыжная ўзнагарода!

Творчае спаборніцтва праходзіла ў межах праекта «Беларуская музычная спадчына — дзецям». «Ганарыцца культурнымі крыніцамі роднай краіны павінен кожны грамадзянін, які сябе паважае. Выхоўваць гэтае разуменне трэба з самага маленства», — упэўнена аўтар і арганізатар праекта, загадчык фартэпіяннага аддзялення Дзяржынскай дзіцячай школы мастацтваў Вольга Палітанская.

Ацэньвала маленькіх музыкантаў прафесійнае журы, у ліку якога — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, кампазітар Рыгор Сурус, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Валянціна Пісарчык і выкладчык Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Васіль Анікееў.

Старанні ўсіх канкурсантаў былі ацэнены вельмі добразычліва. Ніхто не застаўся без прыемных падарункаў і ўражанняў. А галоўнае — добры досвед. Удзельнікам уручылі граматы за паспяховае выступленне, а таксама памятныя прызы. Сярод пераможцаў — прадстаўнікі розных школ беларускай сталіцы і Мінскай вобласці. Гран-пры дасталася вучаніцы дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 19 г. Мінска Дзіяне Ацапкінай.

Урачыстую атмасферу на конкурсе падтрымлівалі ўжо сталыя калектывы: ансамбль скрыпачоў «Кантабіле» (кіраўнік Ірына Лук'янава) і ансамбль духавых інструментаў (кіраўнік Уладзімір Несялоўскі).



Творчая аддача юнага музыканта падчас выступлення.

— Спадзяюся, што святочная і творчая атмасфера конкурсу паспрыяе не толькі прапагандзе беларускай музыкі, але і больш глыбокаму яе асэнсаванню вучнямі, — падвяла вынік Вольга Палітанская.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# Млын, які «дыхае» даўнінай

## Захаванне матэрыяльнай спадчыны стала для Уладзіміра Цвірко сэнсам жыцця

**Непадалёк ад Мінска, на мяжы Дзяржынскага і Мінскага раёнаў, знаходзіцца вёска Хадакова. На яе ўскрайку знайшлося месца і для лецішчаў гараджан. Сядзіба мастака-дызайнера, падарожніка, этнографа Уладзіміра Цвірко ўгадваецца здалёк: вабяць вока па-майстэрску вырабленыя драўляныя вароты, якія як быццам запрашаюць: «Заходзьце, калі ласка!»**

Маю ўвагу, калі я ўпершыню наведаўся сюды, адразу прыцягнуў спраўны і самы малы ў Беларусі паветраны млын, усталяваны побач з двухпавярховым будынкам, у якім гаспадар стварыў унікальны этнаграфічны музей.

Гаспадар паведаў, што даўно хацеў займець млын. І вось некалькі год таму падчас падарожжа па Палессі ён даведаўся, што ў вёсцы Мікіцк Драгічынскага раёна маецца невялічкі млын — казлоўка. Будынак быў у дрэнным стане, бо ўзвялі яго яшчэ ў пачатку 1930-х гадоў. Працавалі толькі ўнутраныя механізмы.

Больш як год Уладзімір будаваў драўляны каркас і крылы млына, прычым драўніну выкарыстоўваў амаль стагадовай даўніны. І вось агромністы рарытэт атрымаў новае жыццё. Цяпер у Хадакова прыязджае шмат людзей, каб не толькі ўбачыць млын, але і пазнаёміцца з цікавымі экспанатамі этнаграфічнага музея, а іх тут больш як 2 тысячы. Вабяць прыгажосцю вышыўкі (некаторым амаль 100 год), калекцыі гадзіннікаў, музычных інструментаў. Бліскучыя самавары суседнічаюць з калаўротамі, збор рэдкіх кніг — з дыяфільмамі і плёнкамі старых кінастужак.

На адным са шматлікіх вугальных прасаў прагладваецца выява… барадатага Льва Талстога. Пасля таго, як пісьменнік быў адлучаны ад царквы, яго выявы пачалі змяшчаць на прасах і засланках, каб паказаць, як класік сусветнай літаратуры пакутуе ў пекле.

А пачынаўся музей з трох рэчаў, якія перайшлі Уладзіміру ў спадчыну ад маці, — праса, калаўрота і хлебнай лапаты. Потым многія рэчы дарылі сябры, знаёмыя. Калекцыю музея папоўніла і мая 40-томная Вялікая Савецкая энцыклапедыя 1954 года выдання.



*Уладзімір Цвірко каля старога млына.*

Сёння ўвагу наведвальнікаў прыцягвае і ставок з рыбай, і хатка з Бабаю-Ягой, і дарожны ўказальнік, на якім пазначана адлегласць у кіламетрах ад сядзібы да многіх населеных пунктаў Беларусі. Адным словам, дзівосы на кожным кроку.

Амаль усё на сядзібе Уладзіміра зроблена ўмелымі рукамі гаспадара — яшчэ і фатографа, філатэліста, краязнаўцы. Некалі ў яго нарадзілася ідэя аб'ехаць, абысці кожны куточак Беларусі, абследаваць архітэктурныя і гістарычныя помнікі мінулага. Склаў маршрут падарожжаў і распрацаваў праект «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі», які стаў пераможцам XI Нацыянальнага конкурсу «Залатая Ліцера» за 2015 год як лепшы аўтарскі праект у намінацыі «Лепшыя матэрыялы культурнай і гістарычнай тэматыкі».

Уладзімір ужо здзейсніў некаторыя падарожжы. На іх аснове была створана і ўбачыла свет у выдавецтве «Турінфо» багата ілюстраваная кніга «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі», аналагаў якой пакуль няма. Перад чытачом паўстаюць багатыя гістарычнымі падзеямі 36 куточкаў Міншчыны. Аўтар плануе выдаць яшчэ больш як 30 такіх жа даведнікаў пра іншыя рэгіёны нашай краіны.

У 1999 годзе Уладзімір Цвірко стварыў творчую студыю па вырабе мастацкіх вітражоў «Ціфані». На дабрачыннай аснове ўсталяваў вітражы ў Свята-Троіцкім храме ў г. п. Мір і ў царкве вёскі Бережно Карэліцкага раёна. Многія творы мастака знаходзяцца ў Германіі, Аўстрыі, Канадзе і ў прыватных калекцыях. Цяпер Уладзімір кіруе творчай студыяй па стварэнні вітражоў, рэстаўрыруе прадметы даўніны, а ў вольны час прымае наведвальнікаў у сваім этнаграфічным музеі.

**Лявон ЦЕЛЕШ, фота аўтара.**

# У хаце бабулі

**Стварыць музей у хаце — такая ідэя прыйшла пінскаму школьніку Андрэю Палюховічу, калі ён рыхтаваў навукова-даследчую працу па гісторыі вёскі Вялікія Дворцы, дзе жыве яго бабуля.**



*Андрэй Палюховіч з вялікім натхненнем праводзіць экскурсію ва ўласным музеі.*

Афіцыйна называць вясковую хату музеем пакуль рана — для гэтага трэба атрымаць неабходныя дакументы. Добра, што дырэктар тут ужо ёсць — дзевяцікласнік сярэдняй школы № 15 г. Пінска Андрэй Палюховіч. Хлопец сабраў многа цікавых экспанатаў: посуд, прылады ручной працы, музычныя інструменты — больш як 200 прадметаў (!), якія размешчаны ў шасці пакоях. Хлопец самастойна вядзе ўлік рарытэтаў і нават завёў журнал наведванняў.

Першы экспанат — старадаўні самавар, які калісьці належаў прабабулі Андрэя і доўгі час знаходзіўся ў іх гарадской кватэры. Звярнуўся збіральнік да вяскоўцаў. Пачалі дапамагаць у пошуках рарытэтаў. Так у музеі з'явіліся прас на вуглях, гліняныя збаны, прач для мыцця бялізны, веялка, крыжавіна для прачысткі дымаходаў, футляр для гадзінніка, дзіцячая плеценая калыска, калаўрот, ткацкі станок і іншыя прадметы. Можна ўявіць, як жылі нашы продкі… Пра іх побыт яскрава сведчыць і ўнікальная фотагалерэя.

Юны музейшчык скампанаваў прадметы для чырвонага кута: на самым відным месцы — ікона, абрамленая саматканым ручніком. Ёсць тут і тэматычная падборка пра тое, як жылі вяскоўцы ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Вялікую цікавасць у першых наведвальнікаў, вучняў найбліжэйшай да Вялікіх Дворцаў Плешчыцкай сярэдняй школы, выклікалі падручнікі мінулых гадоў. Іх перадаў незвычайнаму музею вясковы старажыл Уладзімір Іванавіч Федаровіч. Ён жа перадаў сюды і нумары газет «Нядзельнае чытанне» за 1927 і 1936 гады ды «Іскра» — за 1900-й.

Андрэй спадзяецца, што створаны ім музей будзе запатрабаваны. Таму працягвае з энтузіязмам шукаць новыя экспанаты. Дапамагаюць юнаму руплівцу неераўнадушныя землякі.

**Марыя ЛЯШУК, фота аўтара**

*Цікава ведаць*

# Пра імя паэта-нашаніўца

Нядаўна давялося праглядаць картатэку з біяграмамі дзеячаў беларускай культуры і нацыянальнага руху, якую яшчэ ў 1960-я гады стварыў Адольф Клімовіч. На картцы земляка, паэта-нашаніўца Гальяша Леўчыка (1880 — 1944, сапраўднае прозвішча Ляўковіч) затрымаўся. Клімовіч піша: «нават само беларускае імя паэта «Гальяш» (гэта ж не псеўданім!) перадаецца на казённы лад "Ілья"» (аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі).

Гэта ён крытыкаваў даследчыкаў, якія рабілі публікацыі пра слонімца. Сярод іх — Уладзімір Калеснік, пазней — Янка Саламевіч. З іх лёгкай рукі «Ілья Міхайлавіч Ляўковіч» трапляў у энцыклапедыі, у кнігу «Памяць». А ўжо пасля падхапілі аўтары, якія пісалі і працягваюць пісаць у перыёдыку. Каюся, і сам выкарыстоўваў гэты варыянт. Не задумваючыся.

Цяпер жа, прачытаўшы Адольфа Клімовіча, паспрабаваў разабрацца. Як жа сябе называў сам Гальяш Леўчык? Нямала сваіх лістоў ён падпісваў не псеўданімам, а сапраўдным прозвішчам: Гальяш Ляўковіч, Г. Ляўковіч, Э. Ляўковіч (парусску: «*Э. Левкович*», па-польску: «*E. Lewkowicz*», «*Eliasz Lewkowicz*»). Але нідзе ён не напісаў «Ілья»!

Гальяшом Леўчыкам ці Гальяшом Ляўковічам называюць яго ў сваіх успамінах Зоська Верас і Ян Пятроўскі, людзі, якія добра ведалі паэта, ліставаліся з ім. Гісторык Юрый Туронак заўсёды выкарыстоўваў такі варыянт: Гальяш Леўчык (Ляўковіч). І ён, відавочна, праўдзівы. Відаць, варта на гэта звярнуць увагу даследчыкам, а таксама стваральнікам вікіпедыі ў інтэрнэце.

**Сяргей ЁРШ**

# Доступ дазволены

## Архіў, дзе захоўваецца больш як 500 збораў

**Скарбніца айчыннай культуры Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, дзе захоўваюцца ўнікальныя дакументы, па якіх даследчыкі вывучаюць жыццё творцаў, адзначыў 55-годдзе.**

Тут праводзяцца шматлікія выстаўкі, прэзентацыі, штогадовыя архіўныя і Узвышаўскія чытанні. У БДАМЛМ захоўваецца больш як 500 архіўных збораў знакамітых пісьменнікаў, кампазітараў, акцёраў, рэжысёраў, спевакоў, мастакоў і скульптараў, фонды кінастудыі «Беларусьфільм», айчынных тэатраў, рэдакцый літаратурна-мастацкіх часопісаў, газет і інш.

А папаўняюцца фонды дзякуючы нястомнай працы дырэктара БДАМЛМ Ганны Запартыка, якая кіруе калектывам з 1993 года, і супрацоўнікаў установы — яны рупяцца, каб кожны лісток і радок архіваўтваральнікаў захаваўся. Творцы могуць смела давяраць установе свае дакументы — іх належным чынам апрацуюць, складуць вопіс, які дапаможа потым даследчыкам.

Раней архіў-музей знаходзіўся ў памяшканні сучаснай царквы Пятра і Паўла, цяпер — у будынку былога езуіцкага касцёла святога Іосіфа, дзе і цяпер адчуваецца намоленая атмасфера. Ганна Запартыка згадвае той час, калі ў БДАМЛМ тэлефанавалі Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Віталь Скалабан… Цяпер іх фонды, апрацаваныя і даступныя для ўсіх, — ужо гісторыя.

Шмат год аддалі архіўнай справе Таццяна Кекелева, Марыя Пышынская, Вольга Бярэйшык, Валянціна Данекіна, Ірына Евенка… Для іх праца ў БДАМЛМ — цэлае жыццё. З іх бярэ прыклад маладое пакаленне. У розны час архіўмузей узначальвалі К. Жорава, Г. Сурмач.

На святочную імпрэзу, якая прайшла ў архіве, юбіляраў прыйшлі павіншаваць пісьменнікі Аляксандр Вашчанка і Міхась Башлакоў. Дарэчы, Аляксандр Пятровіч шмат часу аддае пошуку і публікацыі цікавых архіўных дакументаў.

Паступова перадае ў БДАМЛМ багаты ўласны архіў Міхась Башлакоў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Падчас імпрэзы прагучалі яго вершы з кніг «Пяро зязюлі падніму», «Палын. Чарнобыль», «Віно адзінокіх», любоўная лірыка з новага зборніка «Музыка нязваная». Некаторыя кнігі аўтар падпісаў і перадаў архіву.

БДАМЛМ атрымаў падарункі і ад пісьменніка Уладзіміра Ліпскага — асабісты фонд творцы папоўніўся часопісамі «Буся», «Вясёлка», яго новымі кнігамі для падлеткаў і дарослых, дакументальным фільмам пра пісьменніка, календаром у народным стылі ад «Вясёлкі» і інш.

Перад прысутнымі выступілі са сваімі арыгінальнымі творамі навуковы супрацоўнік архіва, паэт Віктар Жыбуль з сынам Кастусём. Міжволі ў іх атрымалася цэлая празаічна-паэтычна-спеўная пастаноўка — сведчанне таго, што ў музеі створана і творчая абстаноўка. Верыцца, яна захаваецца і надалей!

**Дар'я ЛЁСАВА**

*Спадчына*

# Да святога каменя па… дождж

**Вёска Крамянец у Лагойскім раёне даўно вядома сваім святым каменем, а месца, дзе ён знаходзіцца, навукоўцы падаюць як Крамянецкае свяцілішча.**



Археалагічныя раскопкі сведчаць: раней вакол валуна была пляцоўка, выбрукаваная з невялікіх камянёў, арыентаваная па баках свету і абнесеная агароджай з веснічкамі. Даўжыня валуна — прыкладна 1,1 метра, шырыня — 70 сантыметраў, вышыня — каля 60 сантыметраў. На верхняй паверхні каменя ёсць так званыя сляды. Мясцовыя жыхары вераць, што гэта прайшлася сама Багародзіца.

Калісьці тут былі капліца і калодзеж, ваду з якога налівалі далонямі ў сляды на камяні, затым абмываліся ёю. Сцвярджалі, такім чынам здымалася боль. Цяпер лячэбнай лічыцца вада, якая застаецца ў «божых слядах» пасля дажджу. Камусьці дапамагае такое лячэнне — відаць, тым, хто верыць.

З даўніх часоў існавала павер'е, што з дапамогай адмысловага абраду каля святога каменя можна вызваць дождж, а потым спыніць яго. Легенды пра гэта перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Вельмі цікавым падаецца абрад выкліку дажджу. Для гэтага трэба было знайсці 9 удоў і нарыхтаваць столькі ж тоўстых калоў даўжынёй прыкладна у рост чалавека. Жанчыны станавіліся вакол каменя, падсоўвалі пад яго калы, затым падважвалі і прыўзнімалі святы камень. Пры гэтым прыгаварвалі заклінанне: «Божачка, памажы, дожджык прынясі!» Дождж пачынаўся праз некалькі дзён. Для таго, каб дождж спыніўся, трэба было зноў паставіць камень на сваё месца і выняць з-пад яго калы. У нашы дні такі абрад выканалі ў спякотнае лета 2012 года, і адбыўся цуд — пайшоў дождж.

Лічыцца, што святы камень нельга нікуды перавозіць, бо ён згубіць сваю сілу, а людзі, якія яго патрывожылі, пачнуць хварэць. Паводле легенды, якую расказваюць жыхары Крамянца, адзін мясцовы жыхар перавёз камень у іншае месца і паклаў пад фундамент дома. Пасля гэтага хата пачала гніць і развальвацца, а чалавек і яго радня — хварэць. Аднойчы гэтаму чалавеку прысніўся сон: камень гаварыў яму, каб яго завезлі назад, што і было зроблена. Прычым заўсёды адзначаюць, што вывозілі камень з цяжкасцю некалькі коней, а назад лёгка прывёз адзін. Пасля гэтага ўсе няшчасці ў сям'і скончыліся.

Гэтая ды іншыя легенды замацаваліся ў розных варыянтах. Самая апошняя сцвярджае: валун хацелі завезці ў Музей камянёў, які знаходзіцца ў сталічным мікрараёне Уручча. Прыехала машына. З дапамогай пад'ёмніка спрабавалі пагрузіць яго ў кузаў, але не змаглі, бо машына зламалася. Больш камень не турбавалі.

Засталася традыцыя прыносіць да каменя ў святочныя дні розныя ахвяраванні: на Вялікдзень — асвечаныя яйкі і кулічы, на Спас — яблыкі, у іншыя дні — кветкі, цукеркі, грошы і нават прыгожыя ручнікі ручной работы ці хусцінкі. А яшчэ ёсць тут звычай: калі хто ідзе ў лес за грыбамі ці ягадамі, трэба абавязкова завярнуць да валуна і палажыць на яго ахвяраванне — кавалачак хлеба, цукерку, пячэнне. Такім чынам сёння святы камень стаў ужо аб'ектам так званага народнага хрысціянства.

Мясцовая жыхарка Таццяна Вязьміна расказвае, што былі спробы пашкодзіць драўляны крыж, які стаяў каля каменя. Яго вывернулі і занеслі далёка ў гушчар. Але дзякуючы нераўнадушным людзям, навукоўцам, раённай уладзе і супрацоўнікам Лагойскага гісторыка-краязнаўчага музея, якія накіравалі матэрыялы ў Міністэрства культуры Беларусі для ўключэння каменя-следавіка ў Дзяржаўны спіс аб'ектаў нематэрыяльнай спадчыны, унікальны валун занесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і знаходзіцца пад ахоўвай дзяржавы. Так і павінна быць, бо гэта гістарычная спадчына нашага народа, святое месца, якое шанавалі продкі.

**Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ,**
**фота аўтара.**

*Кола навін*

# «Жывыя чытанні» ў «Пружанскім палацыку»

У музеі-сядзібе «Пружанскі палацык» стартаваў новы праект «Жывыя чытанні», які аб'ядnaў тых, хто цікавіцца творчасцю ўвогуле, любіць паэтычнае слова, літаратуру як мастацтва.

«Першай «спробай пяра» стала творчасць Ніны Дыдышка, якая пагадзілася паўдзельнічаць у праекце ў якасці госці, — распавяла навуковы супрацоўнік музея-сядзібы Валянціна Нідзелька. — Паэтэса чытала свае вершы і ўрыўкі з новых твораў, вершы творцы гучалі з вуснаў сяброў, удзельнікаў гуртка «Магія слова», настаўнікаў, выкладчыкаў».

Ніна Дыдышка піша не толькі вершы, але і прозу, публіцыстыку. Нядаўна выйшлі яе кнігі «Радасць і смутак кахання Тадэвуша Касцюшкі», «Жанчыны ў жыцці Янкі Купалы».

* * *

Выстаўка «Рэпліка. Керамапластыка Валерыя Калтыгіна», аднаго з самых таленавітых і вядомых у Беларусі і за яе межамі майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Валерый Калтыгін — арганізатар і кіраўнік штогадовых Міжнародных пленэраў па кераміцы «АРТ-Жыжаль» у Бабруйску, удзельнік Міжнародных біенале керамікі таварыства «*KERAMOS*» (г. Варшава, Польшча), лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва.

Творы майстра знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, фондзе Беларускага саюза мастакоў, Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. В. Масленікава, Бабруйскім мастацкім музеі, Карцінннай галерэі імя Г. Х. Вашчанкі ў Гомелі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску.

* * *

На фотавыстаўцы «Я ганарусь, што я з Беларусі!», якая праце ў філіяле «Музей фатаграфіі» Музея гісторыі горада Гомеля, прадстаўлены работы пераможцаў адкрытага аднайменнага рэгіянальнага конкурсу патрыятычнай фатаграфіі, які праходзіў пад эгідай галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама і з ініцыятывы дзяржаўнай установы «Палац культуры "Бяліцкі"».

Згодна з умовамі творчага спаборніцтва, здымкі яго ўдзельнікаў утрымліваюць элементы атрыбутыкі нацыянальнай беларускай культуры або зроблены ў месцах, якія адлюстроўваюць нацыянальны каларыт нашай краіны. У конкурсе бралі ўдзел амаль 470 чалавек з Беларусі, Расіі, Ізраіля і Канады, якія прадставілі больш як 2000 работ.

* * *

Унікальныя па прыгажосці навагоднія і калядныя паштоўкі можна ўбачыць на выстаўцы ў Ганцавіцкім раённым краязнаўчым музеі, дзе прадстаўлена больш як 500 паштовак. Самая старая датавана 1958 годам. Шмат паштовак з 60-х — 80-х гадоў мінулага стагоддзя, па іх можна прасачыць гісторыю эпохі.

Да канца 1950-х гадоў навагоднія паштоўкі друкавалі па эскізах прафесійных мастакоў, чые прозвішчы абавязкова змяшчаліся! Росквіт навагодняй паштоўкі прыпадае на 60-я гады: сюжэты адлюстроўваюць засваенне космасу, развіццё тэхнікі…

Праз дзесяцігоддзе на паштоўках з'яўляюцца Дзед Мароз і Снягурка. У 1980-я мы бачым персанажаў «лялечных» мультфільмаў і алімпійскага Мішку, зоркі і куранты на Крамлёўскай вежы. У пачатку 1990-х самыя папулярныя — паштоўкі «З Калядамі!», у 2000-х — з персанажамі Усходняга календара.

# Метафізічнае

## Шчыры падарунак Анатолю Сысу

**Выстаўка адной карціны — дастаткова цікавая нагода для аўтара і наведвальнікаў экспазіцыі да самай элементарнай дробязі разглядзець работу, зразумець яе сэнс, успомніць альбо даведацца пра яе гістарычны кантэкст. У выпадку цікавага, авантурнага мастака Руслана Вашкевіча выстаўка адной карціны з'яўляецца нагодай, кропкай адліку для пачатку вялікай справы.**

Літаратурнаму музею імя Петруся Броўкі Руслан Вашкевіч падараваў адну са сваіх ранніх карцін «Каўчэг», гісторыя якой праходзіла розныя складаныя этапы. На самым пачатку свайго існавання яна была падаравана вядомаму беларускаму паэту, заснавальніку суполкі маладых пісьменнікаў «Тутэйшыя» Анатолю Сысу.

> *Работа пераходзіла з рук у рукі. У кагосьці яна вісела дзесяць гадоў у кватэры, пасля я мяняў яе на грошы, якіх заўсёды не хапала, потым зноў вяртаў да сябе ў майстэрню.*

— Аднойчы мы сядзелі разам у добрай кампаніі, — успамінае Адам Глобус. Тады Руслан узяў сваю карціну «Каўчэг» і падарыў нашаму геніяльнаму паэту Анатолю Сысу. А пасля — магчыма, падумаўшы, — вырашыў, што яна яму яшчэ патрэбна, і папрасіў вярнуць яе назад. Анатоль, радуючыся, што «Каўчэг» правісеў у яго пакоі цэлы тыдзень, з добрымі словамі вярнуў работу аўтару. І вось нядаўна мне патэлефанаваў Руслан і сказаў, што ў яго ёсць жаданне падарыць яшчэ раз гэтую карціну Анатолю. Нават нягледзячы на тое, што Анатоля ўжо няма з намі, карціна захоўвае памяць пра яго. Спачатку мы планавалі аддаць яе сёстрам — завезці на радзіму ў вёску Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Але я ўспомніў, што ёсць такая практыка ў розных літаратурных музеяў — збіраць калекцыі рэчаў розных пісьменнікаў і паэтаў, якія пакуль не маюць сваіх музеяў. Мы з Русланам прапанавалі такую ідэю супрацоўнікам Літаратурнага музея імя Петруся Броўкі. Яны адгукнуліся. Вельмі хацелася б ведаць, што не толькі ў вёсцы Гарошкаў ёсць аматарскі музей. Добра было б пачаць збіраць яго калекцыю тут, у Мінску, дзе прайшлі лепшыя гады Анатоля Сыса. Выстаўка адной карціны для мяне ў большасці акцыя, каб прыйшлі людзі і даведаліся, што мы пачынаем такую працу. Магчыма, хтосьці, у каго ёсць пэўны артэфакт, звязаны з Анатолем Сысом, прынясе яго ў музей. А калі збярэцца добрая калекцыя, то можна будзе ўжо гаварыць і пра стварэнне музея. Карціна «Каўчэг» з'яўляецца для мяне метафарычнай. Магчыма, дзякуючы ёй у хуткім часе будуць збірацца геніяльныя рэчы.

Далей размову працягнуў Руслан Вашкевіч, ён патлумачыў прысутным, чаму папрасіў Анатоля Сыса вярнуць мастацкую работу назад:

— Карціне «Каўчэг» у гэтым годзе споўнілася дваццаць пяць гадоў. На той момант, калі я падарыў яе Анатолю (па сваёй душэўнай дабраце, а магчыма, гэта проста быў сяброўскі парыў), я быў яшчэ маладым мастаком. Думаю, усім зразумела, што ў пачынаючага мастака не можа быць шмат работ. А «Каўчэг» быў адным з маіх вялікіх творчых пачынанняў. Доўгі час у сваёй творчасці я адштурхоўваўся менавіта ад гэтай карціны. У яе сапраўды цікавая гісторыя, бо работа пераходзіла з рук у рукі. У кагосьці яна вісела дзесяць гадоў у кватэры, пасля я мяняў яе на грошы, якіх заўсёды не хапала, потым зноў вяртаў да сябе ў майстэрню. Але ж на самай справе карціна з'яўляецца маім шчырым падарункам добраму чалавеку і таленавітаму паэту.

Сапраўды, асаблівыя рэчы павінны заняць сваё месца ў музейнай прасторы. Карціна «Каўчэг» па памеры і кантэксце вельмі добра ўпісалася ў музейную залу. Яе сюжэт дазваляе паразважаць над кожнай мастацкай лініяй, падумаць, што хацеў сказаць аўтар, і людзям, якія ўжо ведаюць гісторыю гэтай работы, у чарговы раз добрым словам успомніць паэта Анатоля Сыса.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Руслан Вашкевіч «Каўчэг».*

## Культурны ракурс

### Вітаем першага ўдзельніка фотаконкурсу — Алега Грушэцкага, які даслаў здымак сваёй дачушкі Марыі.



На фота дзяўчынка ўважліва разглядае скульптуру пад назвай «Конь» Валерыя Малахава на выстаўцы «Восеньскі салон», што прайшла ў кастрычніку мінулага года ў сталічным Палацы мастацтва. Нават знакамітыя салоны Парыжа маглі пазайздросціць такому ўнікальнаму мерапрыемству. «Восеньскі салон» — гэта першая ў Беларусі выстаўка, дзе поруч з сусветна вядомымі творцамі парыжскай школы былі прадстаўлены работы 90 маладых беларускіх мастакоў, скульптараў і дызайнераў. Не дзіва, што ў Марыі на фота такія зацікаўленыя вочкі!

Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас **lim_new@mail.ru** з пазнакай **«Культурны ракурс»** — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!

Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.

Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактных дадзеных). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.

Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 14.01.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2001.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 152

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686